10 ліпеня 2020 | № 25 (684)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




Я стаміўся, але не сыходжу! Стар. 8

4 АЎТАЗАКІ ЯК СІМВАЛЫ ПОСПЕХУ ІМПАРТАЗАМЯШЧЭННЯ

Адно з адрозненняў цяперашніх «выбараў» ад папярэдніх палягае ў перахопе ініцыятывы альтэрнатыўнымі кандыдатамі. Яны сёння фарміруюць парадак дня

5 «ЛУКАШЭНКА ЎЖО НАВАТ НЕ СПРАБУЕ СПАДАБАЦЦА БОЛЬШАСЦІ»

Доктар палітычных навук Андрэй Казакевіч разважае, чаму ў гэтай кампаніі Лукашэнка не мае ніякай станоўчай праграмы



6–7 «У БЕЛАРУСІ ЛЮДЗІ Ў МАСТАЦТВЕ НЕ РАЗБІРАЮЦЦА»

За творчасцю мастака, ілюстратара і дызайнера Аляксея Жалібо (@tot_chuvak_) у Instagram сочыць амаль 30 тысяч падпісчыкаў

10–11 НАСУПЕРАК ПРАВІЛАМ ГУЛЬНІ

55 гадоў таму была ўпершыню апублікавана аповесць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць»



# Хвароба няўпэўненасці



Сяргей ПУЛЬША

**Зразумела, за часам натхнення прыходзіць час нейкага расчаравання. Узрушаныя «рэвалюцыяй подпісаў» беларусы ўрэшце ўсвядомілі, што тых, хто супраць дзейнага кіруючага рэжыму, — шмат. Што яны, беларусы, аб'яднаўшыся, маюць шанец перамагчы. Але пасля з'яўлення гэтага феномену, у «міжвыбарчае зацішша» з усіх куткоў палезлі ныцікі.**

Узяць, напрыклад, вядомы мем «Саша 3%». Лукашэнка сказаў: «Хіба вы верыце, што ў дзейнага кіраўніка рэйтынг можа быць 3%?». І ўслед за ім нармальны, падавалася б, палітолаг піша: «Трэба быць клінічным ідыётам, каб пераканаць сябе, што рэйтынг Лукашэнкі 3%». На яго думку, 3% — гэта «прымітыўны мабілізацыйны фэйкавы месідж у камунікацыйнай бурбалцы Facebook з яго 8% аўдыторыі».

Па-першае, дзіўна, што гэта пішацца ў той самай «камунікацыйнай бурбалцы Facebook з яго 8% аўдыторыі». Па-другое, «Саша 3%» узнік не «ў бурбалцы», а з апытанняў на TUT.BY і onliner.by. Унікальных наведвальнікаў у аднаго TUT.BY — больш за два мільёны на дзень (67% беларускіх карыстальнікаў інтэрнэту ў чэрвені 2020 года — паводле Яндэкс.Метрыкі). Па-трэцяе, калі Мініфармацыі забараніла апытанкі «За каго вы будзеце галасаваць», TUT запусціў іншую галасавалку кшталту: «Што вам больш падабаецца? Дранік? Трактар? World of Tanks?». І «Трактар» усё роўна набраў 3%.

Можна колькі заўгодна казаць, што гэта — «нерэлевантная лічба», што апытанка ў інтэрнэце не з'яўляецца нармальным сацыялагічным даследаваннем, і што ў нас няма незалежнай сацыялогіі. Яе сапраўды няма. Але мы ведаем, на якія лічбы спасылаемся, кажучы пра 3%. А вось на якія лічбы спасылаюцца тыя, хто сцвярджае, што рэйтынг дзейнага кіраўніка дзяржавы БОЛЬШЫ за 3%? У нас жа ў краіне няма незалежнай сацыялогіі! На чым грунтуецца сцвярджэнне, што 3% — гэта «прымітыўны фэйкавы месідж»? На выслоўі, што «гэтага не можа быць, таму што не можа быць ніколі»? Такі сабе аргумент.

Вельмі нудотныя і «наезды» на нашу эміграцыю. Падаецца, ужо паўгода прайшло, як нябожчык Юрый Зісер напісаў свае дыскусійныя 12 азначэнняў сапраўднага беларуса, сярод якіх было: «Сапраўдны беларус эмігруе ў Літву ці Польшчу і адтуль праз Facebook вучыць тых, хто застаўся, як ім Радзіму любіць». За гэты час можна ўжо было суцішыцца, але дзіды вакол дыяспары ломяцца дагэтуль. Тыя, хто застаўся, лічаць эмігрантаў (згодна з савецкім стэрэатыпам) ледзьве не здраднікамі. Маўляў, з'ехалі па лепшае жыццё — дык не вучыце нас, як жыць.

Але перш, чым адмаўляць эмігрантам у праве на выказванне і меркаванне, задумайцеся, што зрабіла эміграцыя для Беларусі. Ці ведалі б мы пра бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», каб не эміграцыя? Апошнія «эміграцкія» акцыі збіралі ад некалькіх соцень да тысячаў чалавек — і гэтыя людзі таксама маюць права галасаваць на замежных участках.

Ці здолелі б мы ўзімку гэтага года адстаяць сваю незалежнасць толькі мінскімі акцыямі? Калі б не было антыінтэграцыйных пікетаў пад беларускімі ды расійскімі амбасадамі ў Польшчы, ЗША, Ізраілі, Вялікабрытаніі, у «сталіцы ЕС» — Бруселі дый шмат дзе яшчэ? Ці не зрабіла эміграцыя даволі значны ўнёсак у захаванне нашай незалежнасці ЦЯПЕР?



Фота www.twimg.com

Да таго ж — звонку бачна тое, чаго мы можам і не заўважаць знутры. Так што не трэба сварыцца з беларусамі замежжа. Верагодна, яны бачаць нешта не так, як мы ўнутры краіны, але ў гэтым і карысць.

Самае прыкрае, што ныцікі транслююць сваю нуду на навакольнае асяроддзе, забіваючы ў людзях энтузіязм і пачуццё еднасці. Падавалася б, мы за гэтыя паўгода пабачылі фенаменальную для Беларусі еднасць і салідарнасць. І гэта выяўлялася не толькі ў чэргах, каб паставіць подпісы за альтэрнатыўных прэтэндэнтаў у прэзідэнты. Гэта і кампаніі дапамогі медыкам, і кампаніі за хатняе навучанне, і распрацоўка дыстанцыйнага навучання... Беларусы, аб'яднаўшыся, саматужна зрабілі тое, чаго не здолела зрабіць дзяржава. Але гэта проста не бярэцца пад увагу. Нам кажуць, што «ў нас не атрымаецца», проста таму, што «не атрымаецца».

«Ныцці» — гэта не «скепсіс», і нават не «песімізм». Збольшага, гэта спроба пачухаць пачуццё ўласнай важнасці. Але дрэнна, што гэтыя пачухоны робяцца ў асноўным за кошт абясцэньвання працы іншых — тых, хто стаяў у пікетах ды збіраў подпісы за альтэрнатыўных кандыдатаў, тых, хто стаяў у чэргах да гэтых пікетаў, тых, хто ладзіў акцыі салідарнасці, тых, хто ўдзельнічаў, тых, хто дапамагаў розным ініцыятывам і персанальна людзям праз краўдфандынг ці асабіста. Тых, хто верыць у лепшае, і галоўнае — працуе дзеля гэтага «лепшага».

> **Ныцік — адзін, а нармальных людзей, якія выйшлі з сацсетак у рэальнасць, — багата**

Што рабіць з ныцікамі? Напэўна, трэба сапраўды пакінуць іх у «камунікацыйнай бурбалцы Facebook». Калі пад іх уплывам апускаюцца рукі — узгадайце тыя самыя чэргі з подпісамі. Ныцік — адзін, а нармальных людзей, якія выйшлі з сацсетак у рэальнасць, — багата. Хай гэтая рэальнасць іх шакавала — але больш народу зразумела, у якой краіне яны жывуць, і што ў гэтай краіне трэба нешта мяняць.

Далей нам усім спатрэбіцца еднасць, салідарнасць і аптымізм. Тая самая салідарнасць, якую мы дэманстравалі ў 2020-м ужо шмат разоў. Насуперак ныцікам — зможам паўтарыць?

# «Плошча — гэта апошняя інстанцыя»

Яўген КІРЫЛАЎ

**Эксперт у камунікацыях мяркуе, што ў сістэме беларускай прапаганды з'явіліся расколіны.**

«Вельмі важна разумець, што Цэнтральная выбарчая камісія — гэта неад'емная частка беларускай прапаганды, — прыводзіць «Салідарнасць» словы эксперта па камунікацыях Аляксандра Мазуркіна. — Яна пасылае вельмі важны месідж, што Лукашэнка — гэта кіраўнік з народа, для народа, што ён — народны».

Эксперт аналізуе лічбы, выстаўленыя яму ў якасці сабраных за яго подпісаў. «Тыя два мільёны подпісаў, якія напісалі цяпер Лукашэнку, не ўзятыя проста з галавы. Звычайна такія лічбы ўзгадняюцца — і даволі рана, яшчэ да пачатку выбарчага працэсу. Будзьце ўпэўненыя, што і ідэолагі, і паліттэхнолагі, і сам Лукашэнка сядзелі і дамаўляліся пра гэтую лічбу».

Эксперт падлічвае, колькі чалавек працуе ў дзяржаўным сектары Беларусі. «Калі мы складзем людзей, якія працуюць у ахове здароўя, у сістэме адукацыі, у абароне, у сістэме правапарадку і на дзяржаўных прадпрыемствах, то атрымаем лічбу, блізкую да двух мільёнаў чалавек. Ідэолагі пасылаюць вельмі выразны сігнал гэтым людзям: народны кіраўнік павінен атрымаць галасы ўсіх, хто працуе ў дзяржсектары», — піша Мазуркін.

На думку эксперта, перамагчы ў гэтай сітуацыі можна толькі праз масавы грамадскі ціск. «Гэта не сядзець у Фэйсбуку і пісаць статусы, як мы незадаволеныя Лукашэнкам. Грамадскі ціск — гэта калі мы паказваем, як нас шмат. І што мы ўдзельнічаем у гэтым працэсе насуперак усяму. І тады магчыма зрабіць так, каб у сістэме пачалі адбывацца збоі. А калі адбываюцца збоі, то ўнутры сістэмы пачынаюць сумнявацца людзі. І несправядлівасць гэтай сістэмы становіцца відавочнай велізарнай колькасці людзей, якія раней былі лаяльныя рэжыму», — кажа ён.

Паводле яго словаў, першыя збоі ўжо адбыліся. Напрыклад, у дзяржаўным тэлебачанні. «Дзяржаўная прапаганда не чакала, што журналісты ў такой колькасці пачнуць выказваца супраць рэжыму. Натуральна, кіраўніцтва каналаў здымае іх перадачы, звальняе... Але расколіна ёсць. Другі збой — гэта непасрэдна ЦВК. Сістэма аказалася не гатовай да таго, што столькі кандыдатаў збяруць такую вялікую колькасць подпісаў за такі кароткі час. І гэта стала супярэчыць наратыву, што Лукашэнка — народны кіраўнік. Як, сабралі больш за мільён подпісаў нейкія альтэрнатыўныя кандыдаты? У сітуацыі, якая склалася, рэжыму нічога не заставалася, як спрабаваць зрабіць гэтыя подпісы несапраўднымі. І паказаць насельніцтву: маўляў, на самай справе гэтыя кандыдаты зусім ужо і не народныя», — лічыць эксперт.

«Але, як мы бачым, у гэтых умовах выбарчыя камісіі не працуюць зладжана. І тыя разнарадкі, якія пусцілі на месцы, — чые подпісы прызнаць сапраўднымі, а чые не прызнаць — іх выкананне вельмі моцна адрозніваецца ў розных рэгіёнах. Розныя вынікі атрымаліся нават у розных раёнах аднаго горада — напрыклад, у Мінску. Гэты факт, як і тое, што некаторыя кандыдаты атрымалі больш подпісаў, чым самі іх здалі, — усё гэта вынік збою ў сістэме», — разважае Мазуркін.

«Цяпер камунікацыйная стратэгія ўсіх нас, беларусаў, павінна быць накіраваная на тое, каб працягваць аказваць масавы грамадскі ціск. Яго можна аказваць толькі пры актыўным удзеле ў выбарчым працэсе. Наша задача — паказаць сістэме, што мы гатовыя ўдзельнічаць у гэтым працэсе нягледзячы ні на што. І казаць, што мы не згодныя. Я разумею, што многія цяпер кажуць пра Плошчу, але гэта — самая апошняя інстанцыя. Цяпер вельмі важна паказаць усім тым, хто працуе ў гэтай сістэме, што нас вельмі шмат. І тады сістэма пачне даваць моцныя збоі», — прагназуе эксперт.

Паводле яго, пад ціскам грамадства людзі, якія працуюць у дзяржаўнай сістэме, павінны зразумець, што яны адказныя за тое, што адбываецца ў краіне. Яны лічаць галасы, працуюць у праваахоўных органах, у судах. Важна зрабіць так, каб яны адчувалі, што на іх ляжыць гэтая адказнасць.

«Напрыклад, калі ваш подпіс прызналі несапраўдным, падайце на абскарджанне. Калі вас не прынялі ў камісію, падайце ў суд. Калі 15 тысяч чалавек адначасова пашле скаргі і абскарджанні, то ўявіце, які прэсінг гэта акажа на сістэму. Ці калі раптам кагосьці прымушаюць галасаваць датэрмінова, пагражаючы стратай працы, — расказвайце пра гэта. Калі вас будзе вельмі шмат, асабліва гэта тысячы жыхароў рэгіёнаў, дзе проста няма каму працаваць, — то звольніць усіх проста ніхто не зможа», — упэўнены эксперт.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Майкі ці санкцыі — што страшнейшае?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Чым бліжэй да выбараў — тым больш палітвязняў.**

У ліпені затрыманні працягнуліся. 1 ліпеня супрацоўнікі ДФР КДК затрымалі сябра ініцыятыўнай групы і асабістую памочніцу Віктара Бабарыкі Алену Карагачаву. Яна змешчаная пад варту ў СІЗА КДБ. Праваабаронцы прызналі Алену Карагачаву палітзняволенай (як і затрыманага 18 чэрвеня Дзмітрыя Караку — аднаго з каардынатараў ініцыятыўнай групы Віктара Бабарыкі, які таксама знаходзіцца ў СІЗА КДБ). Такім чынам, на цяперашні момант у Беларусі больш за два дзясяткі палітвязняў.

Напярэдадні 3 ліпеня ў сацсетках з'явіліся заклікі выйсці ў афіцыйны Дзень незалежнасці на галоўныя вуліцы гарадоў і выказаць нязгоду з тым, як праходзіць выбарчая кампанія ў Беларусі. Гэта прывяло да таго, што па ўсёй краіне было затрымана мінімум 17 чалавек.

Сярод іх — гамельчукі Алена Давыдава, якая 12 гадзін прастаяла на нагах у міліцыі на знак пратэсту, адмаўляючыся ад вады і ежы; Аляксей Раманаў, якому, як і Алене, выклікалі хуткую; Святлана Наркіна, з якой правялі «гутарку».

Сябра ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай Аляксандра Мілюка з Мастоў затрымалі, калі ён папрасіў міліцыянтаў засцерагчы яго ад прыставанняў невядомага. У РАУСе на Мілюка склалі пратакол за «дробнае хуліганства», потым перавезлі ў Мастоўскую раённую лякарню, дзе зрабілі тэст на COVID-19. Тэст быў станоўчы, таму Аляксандра пакінулі ў стацыянары.

Раніцай 3 ліпеня сябра ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай са Скідзеля Яўгена Клімука выклікалі ў РАУС, а пазней змясцілі ў ІЧУ. За некалькі дзён да гэтага ў яго канфіскавалі аўто і тэлефон за язду на машыне са сцягам. 6 ліпеня Клімука аштрафавалі на 15 базавых велічынь (405 рублёў) за парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

У Барысаве затрымалі Максіма Барушку, Паўла Пусташылу і Аляксандра Кульнева, на якіх былі майкі з надпісам «ЗИЮЛЯ», стылізаваным пад 3%. Таксама ў Барысаве быў затрыманы Дзмітрый Шувалаў. Ён быў у футболцы з надпісам «Саша 3%, ты не будешь президентом». Пры затрыманні міліцыянты сказалі Дзмітрыю: «Вы правакуеце сваёй майкай людзей. Нам далі распараджэнне такіх затрымліваць». Усіх затрыманых 3 ліпеня ў Барысаве адпусцілі.

Паводле міліцыі, у Брэсце 3 ліпеня былі затрыманыя 7 грамадзянаў, у дачыненні да якіх распачаты адміністрацыйны працэс. Пакуль праваабаронцам не ўдалося высветліць іх імёны.

У той жа дзень у Маладзечне ў парку Перамогі супрацоўнікі міліцыі падышлі да людзей, сярод якіх быў Яўген Радзівілка ў футболцы з нацыянальнымі сімваламі. Яго павезлі ў РАУС.

Толькі праз тры дні пасля інцыдэнту праваабаронцам стала вядома пра затрыманне Аляксандра Новіка ў Маладзечне. Новік пайшоў у парк Перамогі і вырашыў зрабіць фотаздымак машыны з АМАПам. У выніку яго затрымалі і склалі пратакол аб непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Суддзя Інэса Ежык прыняла рашэнне аштрафаваць Новіка на 10 базавых велічынь (270 рублёў).

У Магілёве быў затрыманы Глеб Будкоў за бел-чырвона-белы сцяг на яго плячах. Будкова трое сутак пратрымалі ў ІЧУ. На разглядзе справы 6 ліпеня ў судзе Ленінскага раёна Магілёва хлопец патлумачыў, што павязаў на плечы бел-чырвона-белы сцяг, каб выказаць салідарнасць з цемнаскурымі людзьмі, якія сутыкаюцца з дыскрымінацыяй. У выніку суддзя Вікторыя Палякова накіравала справу назад у РАУС на дапрацоўку.

У гэты ж дзень у раённым судзе Навагрудка 10 базавых штрафу атрымаў Юрый Каладко — за ўдзел у мясцовым «Ланцугу салідарнасці».

У Віцебску 6 ліпеня затрымалі каардынатара Беларускага нацыянальнага кангрэсу па вобласці, сябра «Народнай грамады» Уладзіміра Кійко. На яго склалі пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і пакінулі да суда ў ізалятары. 7 ліпеня суд Кастрычніцкага раёна Віцебска пакараў Уладзіміра Кійко арыштам у 10 сутак.

Пакуль беларускі рэжым бачыць праблемы ў майках і сцягах, але неўзабаве ў яго могуць з'явіцца больш сур'ёзныя непрыемнасці. 31 дэпутат Еўрапарламенту звярнуўся да Еўракамісіі і дзяржаў — удзельніц Еўрасаюза з прапановай перагледзець рашэнне 2016 года аб зняцці санкцый з шэрагу беларускіх чыноўнікаў і кампаній.

# Мы скідваемся на ўмацаванне рэжыму

Міхась ВАРАНЕЦ

**Навошта нам афіцыйны прафсаюз? Каго і як ён абараняе?**

Вясной 1993 года я быў звольнены з Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь па скарачэнні штата. 1 верасня таго ж года пачаў працаваць настаўнікам гісторыі ў школе №6 горада Слоніма. Атрымаў першы заробак — і ўбачыў, што з мяне вылічваюць прафсаюзныя складкі. Старшыня прафсаюзнай арганізацыі СШ №6 растлумачыла, што бухгалтэрыя аддзела адукацыі «аўтаматам» вылічвае прафсаюзныя складкі з усіх настаўнікаў.

На той час, у 1993 годзе, я ўступіў бы ў настаўніцкі прафсаюз, калі б прапанавалі. Мне было цікава, бо ў войску няма прафсаюзаў. Але мне не спадабалася, што мяне туды залічылі не пытаючыся. Бухгалтэрыя вярнула мне прафскладкі і болей не вылічвала.

У 2001 годзе кіраўнік афіцыйных прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык балатаваўся ў прэзідэнты. У адказ Лукашэнка забараніў збіраць прафсаюзныя складкі праз бухгалтэрыі прадпрыемстваў і ўстаноў. Людзі перасталі плаціць прафскладкі. Хто ж са сваёй кішэні выме і аддасць грошы на пустую справу? Без грошай прафсаюзы пачалі разваливацца. Ганчарык падаў у адстаўку, і тады Лукашэнка дазволіў збіраць прафскладкі праз бухгалтэрыі ў выпадку, калі работнік сам напіша адпаведную заяву-просьбу.

Канешне, ніхто не пабег у бухгалтэрыю пісаць заяву. Але! Старшыні прафкамаў прадпрыемстваў і ўстаноў падыходзілі да кожнага работніка і прасілі напісаць такую заяву. І пісалі! Пісалі прыхільнікі Лукашэнкі. Але пісалі і тыя, хто супраць рэжыму. Напрыклад, на Слонімскім хлебазаводзе такую заяву адмовіўся напісаць толькі адзін чалавек — бухгалтар Ірына Варанец. Пасля гэтага кожны штогадовы прафсаюзны сход старшыня прафкама хлебазавода пачынала прыкладна так: «У нас на заводзе працуе 158 чалавек, з іх членаў прафсаюзаў — 157».

Пасля адстаўкі Ганчарыка беларускія афіцыйныя прафсаюзы канчаткова ператварыліся ў прывадны рамень вертыкалі ўлады, на шпілі якой вось ужо шмат гадоў умудраецца сядзець Аляксандр Лукашэнка. У 2001 годзе работнікі беларускіх прадпрыемстваў і ўстаноў не пакінулі масава афіцыйныя прафсаюзы, а, наадварот, напісалі заявы-просьбы вылічваць грошы з іх заробку на ўмацаванне гэтых прафсаюзаў — фактычна, на ўмацаванне рэжыму Лукашэнкі!

Так і з выбарамі ў Беларусі пасля 1996 года. Калі чалавек прыйшоў на выбарчы ўчастак, ён тым самым прынёс старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай заяву-просьбу палічыць яго голас. Якія падставы ў гэтага хадака пасля масавых фальсіфікацый на рэферэндуме 24 лістапада 1996 года спадзявацца на сумленны падлік галасоў? Ды аніякіх! Па гэтай прычыне пасля 1996 года я і мая жонка не ходзім на выбары.

Хтосьці ўжо 24 гады марыць пра сумленныя выбары пад кіраўніцтвам Ярмошынай. Хтосьці марыць пра мільённую мірную, без ахвяраў, Плошчу, хоць пераважная большасць такіх летуценнікаў самі на Плошчу не пойдуць і дзяцей сваіх не пашлюць.

Задамо пытанне. Што памянялася з 2001 года? Цяперашні старшыня афіцыйных прафсаюзаў Міхаіл Арда — кіраўнік выбарчага штаба Аляксандра Лукашэнкі. Але, як і дзевятнаццаць гадоў таму, работнікі беларускіх прадпрыемстваў і ўстаноў не пакідаюць масава афіцыйныя прафсаюзы. Яны баяцца... і мараць... Бог з імі, хай мараць. Людзі ж здаровага сэнсу разлічваюць і спадзяюцца толькі на сябе.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Такі футбол нам не патрэбны!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Кажуць, карупцыя — гэта вялікае зло для дзяржавы. З гэтым, напэўна, ніхто не паспрачаецца. Але што ж такое здарылася ў нашай краіне, калі барацьба з карупцыяй — зло не меншае, чым сама карупцыя?**



Калаж www.dw.com

У часе непрацяглага адпачынку я наведаў бацькоў. Тата ў мяне — ляжачы, гэта азначае, што яму ўвесь час патрэбныя лекі і розныя медычныя тавары кшталту катэтараў і мочапрымальнікаў. Але гэтыя прылады ўсё даражэюць і даражэюць. Калі з год таму на 10 рублёў я мог набыць 5–7 мочапрымальнікаў вытворчасці Германіі, то цяпер давялося браць беларускія, і па 3,70. То-бок, раней я браў удвая больш па колькасці і, шчыра скажу, утрая больш якасныя прылады за тыя ж грошы. Пры гэтым нам увесь час кажуць пра тое, што ў нас «медыцына на сусветным узроўні».

І на мяжы свядомасці ўсё ж засела думка: як так? Увесь мінулы год цягнулася «справа медыкаў», а апошнія прысуды па ёй вынеслі ў траўні гэтага года. Дык чаму з продажу зніклі танныя замежныя медычныя тавары, а наўзамен ім прыйшлі беларускія дарагія? Можа быць, і не трэба было змагацца з тымі карупцыянерамі? Хоць і бралі хабары — але існаваў бы выбар і па кошце, і па якасці?

Зразумела, браць (і даваць) хабары — гэта кепска. Але, калі пасадзілі хабарнікаў, чаму стала значна горш, чым было пры іх?

Ужо чатыры месяцы за кратамі сядзяць людзі — і неблагія, гледзячы па тым, што кажуць іх землякі, — па так званай «цукровай справе». На фоне перадвыбарчай кампаніі мы пра іх забыліся. Аднак прайшло больш за 100 дзён з моманту іх затрымання, а суда пры гэтым ні на капейчыну (!) не патаннеў. Які вынік такой барацьбы з карупцыяй?

Пакуль што вынік адзін. У футбольным клубе «Гарадзея», напрыклад, працягваюцца фінансавыя цяжкасці. Кіраўніцтва клуба прапанавала ўсёй камандзе пайсці на зніжэнне заробку, паведамляе «Прессбол». Працэнт, на які будзе зрэзаны заробак, будзе вырашацца з кожным футбалістам асобна, але капітан каманды Кірыл Паўлючак ужо пакінуў клуб — «паводле пагаднення бакоў».

І гэта нягледзячы на тое, што клуб яшчэ днямі падпісаў спонсарскую дамову з мясцовым цукровым камбінатам. Але, мабыць, і ў камбіната справы няпростыя, калі клуб не ўтрымліваюць.

Ці было такое пры мінулым кіраўніку цукровага камбіната, якога затрымалі, нібыта, «за карупцыю»? Можа, трэба адпусціць чалавека, бо без яго больш кепска, чым наадварот...

Праблемы не толькі ў ФК «Гарадзея». Галоўны трэнер «Смалявічаў» Аляксандр Бразевіч пасля матчу з брэсцкім «Дынама» распавёў, што гульцы каманды напісалі заявы аб звальненні праз фінансавую сітуацыю ў клубе.

«У гэтым фармаце наша каманда існаваць не будзе, таму што ўсе напісалі заявы... Горад не можа ўтрымліваць каманду ўзроўню вышэйшай лігі — гульцам прапануюць фінансавыя ўмовы на ўзроўні аўтсайдэраў першай лігі. На тыя ўмовы, якія мне гарантуюць, я не збяру каманду», — зазначыў Бразевіч.

А між тым, Смалявічы — горад-спадарожнік сталіцы. І менавіта ў Смалявіцкім раёне знаходзіцца знакаміты «Вялікі камень», беларуска-кітайскі індустрыяльны парк. Чым займаюцца ў тым парку, праўда, невядома, але тое, што горад не здольны ўтрымліваць каманду — паказнік, што і там не ўсё добра.

Дый Бог з імі, грашыма. Насамрэч, тут нашым (і не нашым) футбалістам жывымі б застацца. У той час, як кіраўнік краіны заявіў, што мы перамаглі COVID-19 ці не цалкам, эпідэмія накрыла брэсцкае «Дынама». Агульная колькасць заражаных каранавірусам дасягнула 16 чалавек, футбалістаў у гэтым спісе — 11: Лапцеў, Хачарыдзі, Садоўскі, Мілеўскі, Вітус, Пячэнін, Крывец, Гардзійчук, Юзэпчук, Наёк і Ігнатовіч. Трое апошніх знаходзяцца ў бальніцы. Яшчэ пяць заражаных — з ліку абслугоўваючага персаналу.

Пры гэтым наша футбольная федэрацыя адмовіла «Дынама» ў пераносе гульні са «Смалявічамі». Яны згулялі ўнічыю — 3:3. Але футбол — кантактны від спорту, і апроч фінансавых праблемаў у былых гульцоў «Смалявічаў» могуць узнікнуць праблемы зусім іншыя. Не дай Божа, канешне, — будзем жадаць усім здароўя, незалежна ад таго, за каго заўзеем...

Але вернемся да «барацьбы з карупцыяй». Менавіта ў адмыванні грошай абвінавацілі экс-банкіра і без пяці хвілінаў кандыдата ў прэзідэнты Віктара Бабарыку. Супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў прыйшлі ў «Белгазпрамбанк», якім ён некалі кіраваў. У выніку ў замежным, па-сутнасці, банку была ўведзеная часовая адміністрацыя.

Сённяшні кіраўнік краіны ўліваў нам у вушы: «Вы ведаеце, што мы знайшлі ў ячэйках? Грошы — гэта не галоўнае. Мы знайшлі флэшкі, цвёрдыя дыскі і мора інфармацыі». Знайсці, канешне, маглі што заўгодна — як у Ціханоўскага з трэцяй спробы за канапай нашлі пад мільён долараў. Але хто-небудзь верыць у тое, што Бабарыка захоўваў флэшкі, дыскі і дакументы ў ячэйках кліентаў? Пры гэтым некалькі кліентаў паскардзіліся, што ў іх зніклі асабістыя збераджэнні і каштоўныя рэчы, якія яны захоўвалі ў банкаўскіх ячэйках. Адна ўкраінка, у якой знікла 170 тысяч долараў, думала адкрываць у Беларусі бізнес. Але цяпер перадумала.

Вынікам «барацьбы з карупцыяй» стала тое, што за другі квартал сродкі кліентаў у «Белгазпрамбанку» скараціліся на 30%, або крыху больш, чым на мільярд (!!!) рублёў. Прыбытак банка на 1 ліпеня склаў 18,9 мільёна рублёў і знізіўся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 36,8%! У «Белгазпрамбанка» паўсталі абавязкі перад Нацыянальным банкам Беларусі на 215 мільёнаў рублёў, кварталам раней такога не было!

Зразумела, што справа Бабарыкі — палітычная. Але канкрэтнаму (і не апошняму) банку Беларусі «барацьба з карупцыяй» пагражае банкруцтвам.

Карупцыя — безумоўна, зло. З ёю змагаюцца ва ўсім свеце — дзеля таго, каб дзяржчыноўнікі не перашкаджалі бізнесу. Каб усё было сумленна, і народ у выніку атрымліваў бы новыя даступныя тавары, новыя магчымасці, новыя працоўныя месцы. У нас жа «барацьба з карупцыяй» ператварылася ў інструмент лабіявання «сваіх» прадпрыемстваў, знішчэння канкурэнцыі ці палітычных праціўнікаў. А народу ад гэтага становіцца ўсё горш. І гэта — не барацьба з карупцыяй. Гэта — рэйдарства.

Такі футбол нам не патрэбны.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Дзмітрый Завадскі



**Аператар тэлеканала ОРТ знік без вестак 7 ліпеня 2000 года, 20 гадоў таму.**

Паводле следства, днём 7 ліпеня 2000 года па дарозе ад свайго дома ў мінскі аэрапорт Завадскі быў выкрадзены групай узброеных людзей у колькасці 5–6 чалавек, сярод якіх знаходзіліся баец спецпадраздзялення па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз» Максім Малік і былы афіцэр гэтага ж падраздзялення Валерый Ігнатовіч.

За выкраданне журналіста ў 2002 годзе суд пакараў Ігнатовіча і Маліка пажыццёвым зняволеннем. Аднак далейшы лёс Завадскага ні органамі папярэдняга расследавання, ні судом да цяперашняга часу не высветлены. Цела аператара не знайшлі.

Палітыкі, журналісты і праваабаронцы лічаць, што Завадскага, а таксама Юрыя Захаранку, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага выкралі так званыя «эскадроны смерці». Паводле папярэдняга заключэння праваабаронцаў, асноўнымі падазраванымі па справе аб гэтых выкраданнях і забойствах з'яўляюцца Аляксандр Лукашэнка, Віктар Шэйман (тагачасны кіраўнік Савета бяспекі), Юрый Сівакоў і Уладзімір Навумаў (у розны час — міністры ўнутраных спраў), Дзмітрый Паўлічэнка (тады камандзір в/ч 3214) і Мікалай Васільчанка (тады начальнік Службы бяспекі прэзідэнта).

Высновы беларускіх праваабаронцаў былі пацверджаныя ў 2004 годзе ў спецыяльным дакладзе дэпутата Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Хрыстаса Пургурыдыса, які праводзіў уласнае расследаванне.

## Вольга Нікалайчык



**Актывістка месяц адседзела ў ізалятары часовага ўтрымання ў жудасных умовах. Пры гэтым у яе яшчэ засталіся «непагашаныя суткі».**

Нікалайчык затрымалі 7 чэрвеня на пікеце па зборы подпісаў. Спачатку актывістка атрымала 13 сутак арышту, а потым яшчэ тры разы па 15 (апошнія працэсы праходзілі, калі яна ўжо сядзела ў ізалятары. Яе не даставілі ў суд, тлумачэнні яна давала па скайпе), разам — 58 сутак.

«Было вельмі халодна, не давалі матрасаў, усе 30 сутак не выводзілі мыцца, не давалі ніякіх рэчаў. На прагулку першы раз вывелі на 23-ці дзень. У ШІЗА я захварэла на бранхіт, лячылі антыбіётыкамі. Урач настойвала на здымку, але не дазволілі», — распавядае жанчына пра ўмовы ўтрымання.

«Я настроіла сябе на такое, ведала, што гэта будзе жорстка, — кажа Вольга. — Калі выводзілі ў звычайныя камеры на ноч (каб не было «адзіночкі» — бо гэта ўжо лічыцца катаваннем), а таксама шэсць дзён у звычайнай камеры, ва ўсіх забралі матрасы і коўдры, апроч мяне. Такі ціск супраць палітычных, але сукамернікі прынялі наш бок, толькі адна казала, што гэта ўсё праз палітычных».

## Андрэй Стрыжак



**Праваабаронца і каардынатар кампаніі #BYCOVID19 Андрэй Стрыжак разам з сям'ёй з'ехаў ва Украіну.**

Па яго словах, «можна лічыць гэта доўгачаканым адпачынкам». «Такая магчымасць разглядалася даўно. Канчатковае рашэнне на час пакінуць Беларусь звязана толькі з маім жаданнем пабыць па-за межамі краіны. Пакуль з любай краінай трэба пабыць на адлегласці», — напісаў Стрыжак на сваёй старонцы ў Facebook.

«Апошнія паўгода былі аднымі з самых напружаных у маім жыцці. Многае зроблена і дасягнута, і многае яшчэ наперадзе. Сігналы, які мне пасылаў Сусвет, казалі, што мне трэба на час пакінуць краіну. Што я і зрабіў, — патлумачыў Стрыжак. — #BYCOVID19 ад гэтага не пацерпіць. Убачымся крыху пазней».

На мінулым тыдні кампанія #BYCOVID19, якая тры месяцы забяспечвала беларускіх медыкаў усім, што неабходна для барацьбы з каронавірусам, абвясціла завершанай актыўную фазу дзейнасці. За гэты час валанцёры ініцыятывы завезлі ў бальніцы па ўсёй краіне 450 тысяч адзінак сродкаў індывідуальнай абароны і 1500 адзінак медыцынскай тэхнікі. Усё гэта было набыта на ахвяраванні звычайных беларусаў і беларускай дыяспары — у выніку атрымалася сума ў 335 тысяч долараў.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Аўтазакі як сімвалы поспеху імпартазамяшчэння

**«Гэта — не канец, гэта не пачатак канца, але гэта канец пачатку». Выдатнае выказванне. Яно можа ўпрыгожыць любую кнігу пад загалоўкам «У свеце мудрых думак». Аўтар гэтых словаў — Уінстан Чэрчыль.**




Аднак ці можа існаваць сувязь паміж выказваннем брытанскага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча і сітуацыяй у сучаснай Беларусі? Мяркую, такая сувязь магчымая. Але найперш неабходна ўдакладніць, пра канец і пачатак чаго ідзе гаворка.

У расколатым беларускім грамадстве прадстаўнікі двюх яго частак (не роўных, на жаль) чакаюць і спадзяюцца на супрацьлеглае. Тыя, каго сацыёлагі адносяць да так званай «меншасці», кожны ляп прадстаўнікоў улады і кожны мікрапоспех актывістаў грамадзянскай супольнасці ўспрымаюць у якасці прыкметы калі і не канца, то пачатку канца «апошняга дыктатара Еўропы». Чалавек слабы — і яму ўласціва выдаваць пажаданае за сапраўднае.

Нескладана ўявіць, якую хвалю энтузіязму ў прадстаўнікоў «меншасці» спарадзілі чэргі ахвочых паставіць свае подпісы ў падтрымку альтэрнатыўных кандыдатаў. Нічога падобнага ў электаральнай гісторыі Беларусі раней не назіралася! Асобным гарачым галовам нават здалося, што прызначаныя на 9 жніўня «выбары» (двукоссі пры напісанні гэтага слова па-ранейшаму дарэчныя) змогуць падвесці рысу пад беларускім аўтарытарызмам. Адсюль той энтузіязм, з якім яны пачалі разважаць пра другі тур і іншыя электаральныя глупствы.

Што да прадстаўнікоў «большасці», то сваю падтрымку і ўхваленне адзінага палітыка (АП) па ўласнай ініцыятыве яны даўно ўжо публічна не выказваюць. Мода на такія пачуцці ў Беларусі прайшла. Што, аднак, не перашкаджае прымаць позу пакоры ў адказ на ўсе палітызаваныя ўказанні непасрэдных начальнікаў. Прыклад такога кшталту ўказанняў — збор подпісаў за вылучэнне аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты непасрэдна на працоўных месцах.

## А зайздросціць ёсць чаму

Адно з адрозненняў цяперашніх «выбараў» ад папярэдніх палягае ў перахопе ініцыятывы альтэрнатыўнымі кандыдатамі. Яны сёння фармiруюць парадак дня. Іх канкурэнт, які прызвычаіўся ў электаральным аркестры выконваць партыю першай скрыпкі, вымушаны адкласці ўбок высакародны інструмент і ўзяць у рукі балалайку.

Атрымліваецца непераканаўча, бо рэпертуар за чвэрць стагоддзя надакучыў. А выкананы на народным інструменце, ён тым больш рэжа слых. Аднак я б зграшыў супраць ісціны, калі б адмовіў асобным музычным пасажам у арыгінальнасці. Адзін з такіх прагучаў 22 чэрвеня падчас наведвання АП 38-й Брэсцкай асобнай гвардзейскай дэсантна-штурмавой Венскай Чырванасцяжнай брыгады. З задавальненнем падзялюся сваёй знаходкай: «У сітуацыі, якая склалася, задача арміі і сілаў спецыяльных аперацый — у першую чаргу абарона Айчыны, падтрыманне стабільнасці і згоды ў грамадстве».

З абаронай Айчыны, думаю, праблем не ўзнікне. Але для Беларусі гэтая ісціна актуальная ўдвая. І вось чаму. Самая аўтарытэтная крыніца адзначае: «Не расслабляйцеся. Памятаеце, што вакол столькі шмат людзей, якія з-за зайздрасці, з-за таго, што ім не падабаецца наш народ, бо мы гаворым пра сваю незалежнасць, праводзім свой незалежны курс, будуць стараца абавязкова ўлезці ў нашы справы. Мы нікому не павінны дазволіць у чарговы раз вярнуць нас пад бізун і абуць у лапці». Датавана гэта адкрыццё 21 чэрвеня 2020 года.

Каму і калі падабаўся незалежны курс беларусаў? Пытанне рытарычнае. У які бок ні глянь, як тут жа натыкаешся на позіркі зайздроснікаў. А зайздросціць ёсць чаму! Адна ўпартасць, з якой АП спрабуе вось ужо на працягу 10 гадоў давесці сярэднюю зарплату ў краіне да 500 долараў у эквіваленце, дарагога вартая. А наша традыцыя арыштоўваць кандыдатаў у прэзідэнты! Я не спецыяліст па Афрыцы, таму наконт Афрыкі мне сказаць няма чаго, але ў якой яшчэ еўрапейскай краіне такое магчыма?

Чэрвеньскае турнэ АП па Брэсцкай вобласці ўзбагаціла айчынны палітычны слоўнік фразеалагізмамі «вярнуць пад бізун» і «абуць у лапці».

Хто з нашых суседзяў спіць і бачыць беларусаў у лапцях, АП не ўдакладніў. Незразумелы і сэнс падобнага пераабування. Лапці — сімвал галечы. Хто прывык здавольвацца чаркай і скваркай, а новыя лапці разглядае ў якасці падставы прадэфіляваць па вёсцы, каб прыцягнуць увагу асобаў супрацьлеглага полу, той не цікавіцца навінкамі ад Apple і Gucci.

**Калі лапці — сімвал галечы, то бізун — сімвал сілы. Але ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва на міжнародным узроўні з дапамогай сілы ў нашы дні яшчэ нікому наладзіць не ўдавалася. Адваротнае — калі ласка**

Бо што можа быць горш жабракоў-суседзяў у эпоху абвостранай барацьбы за рынкі збыту! Жабракам-суседзям нічога не прадасі, у іх нічога карыснага для сябе не купіш.

З бізуном — аналагічная гісторыя. Калі лапці — сімвал галечы, то бізун — сімвал сілы. Але ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва на міжнародным узроўні з дапамогай сілы ў нашы дні яшчэ нікому наладзіць не ўдавалася. Адваротнае — калі ласка. Дастатковa прыгадаць, чым скончылася для Расіі акупацыя Крыма.

## Ад бізуноў да гумовых дручкоў

Адно з ноу-хау СССР, выпрацаванае грамадствам па меры прасоўвання да камунізму, — двухдумства. Вось як гэты феномен вызначае дырэктар Лявада-цэнтра сацыёлаг Леў Гудкоў: «Уладам не давяраюць, але пры гэтым дэманструюць ім знешнюю лаяльнасць. На іх спадзяюцца, але адначасова надзяляюць іх самымі агіднымі якасцямі. Двухдумства — адзін з найбольш дзейсных механізмаў адаптацыі да рэпрэсіўнай дзяржавы, да непадкантрольнай улады. Гэта — аснова таго, што называецца "рускім цярпеннем"».

А як наконт «беларускага цярпення», якое хаваецца за імпартным словам «талерантнасць»? Якая роля двухдумства ў працэсе адаптацыі да «дзяржавы для народа»?

Але адаптацыя — гэта вуліца з двухбаковым рухам. Грамадства адаптуецца да рэпрэсіўнай дзяржавы, а рэпрэсіўная дзяржава адаптуецца да грамадства, і двухдумства пры гэтым адыгрывае далёка не апошнюю ролю. Таму складана здзівіць беларусаў спалучэннем афіцыйных размоваў пра высокае, добрае і вечнае з імітацыйнасцю і адкрытым цынізмам.

Па прыклады далёка хадзіць не давядзецца. Дастаткова звярнуцца да прэс-рэлізаў, прысвечаных чэрвеньскім паездкам АП па Брэсцкай вобласці: «Я заўсёды вам казаў: я нікому не дазволю сілавым чынам вырашаць праблемы, якія трэба вырашаць мірна, палітычным шляхам, на падставе нашых законаў. Так будзе заўсёды».

Да каго ён звяртаецца? Да грамадзян, якія становяцца на вуліцах у ланцугі пратэсту супраць самавольства ўлады, або да амапаўцаў, якія збіваюць грамадзян гумовымі дручкамі? Заўважце, не бізунамі, а дручкамі. Ці азначае пераход ад бізуноў да гумовых дручкоў, што ўсе ўнутраныя праблемы ў Беларусі вырашаюцца выключна мірным шляхам і будаўніцтва прыгожай, квітнеючай, ціхай і спакойнай краіны ў геаграфічным цэнтры Еўропы ўжо падыходзіць да свайго завяршэння? Ці азначае гэта, што аўтазакі айчыннай вытворчасці на вуліцах беларускіх гарадоў сведчаць не толькі пра поспехі ў пытаннях імпартазамяшчэння, але і наглядна дэманструюць наша ўменне «выхоўваць сваіх дзяцей на каштоўнасцях міру і чалавечага жыцця»?

Не буду хаваць, мне б хацелася атрымаць афіцыйныя адказы на гэтыя пытанні.

## Мы не самотныя ў сусвеце!

Было б дзіўна, калі б АП не закрануў тэму незалежнасці і суверэнітэту, якія «дарагога каштуюць». Адна з прычын дарагоўлі — наяўнасць па ўсім знешнім перыметры краіны тых, хто хацеў бы, «каб мы не дыхалі». Але не дачакаюцца. Краіну («свой імперыі асколак») мы захаваем.

Чым спароджаныя такія перажыванні, што шматкроць узмацняюцца ўзросшай палітычнай актыўнасцю беларусаў? Прапаную чытачам варыянт адказу фінансіста Андрэя Моўчана: «Ведаеце, гіпотэзы аб знешняй дэстабілізацыі ўнутранай абстаноўкі ў адсталых краінах з аўтарытарным праўленнем з'яўляюцца настолькі стопрацэнтна дамінуючымі ў элітах, што казаць пра тое, чаму яны паўсталі, напрыклад, цяпер у Беларусі, проста бессэнсоўна. Яны з'яўляюцца ў Беларусі менавіта таму, што там адсталая эканоміка і аўтарытарнае кіраванне. Гэта абсалютна неабходная і дастатковая ўмова для ўзнікнення такіх гіпотэз».

Пра якую канкурэнцыю за ўладу можа ісці гаворка, калі знешнія і ўнутраныя ворагі толькі і чакаюць моманту, каб пазбавіць беларусаў іх галоўнага дасягнення? І не варта гэтыя страхі тлумачыць чыёйсьці паранойяй. Расплюшчыце вочы. Азірніцеся вакол. І ў «нашай Расіі», і ў Венесуэле, і ў Конга — тыя ж праблемы. Не верыце? Дык пачытайце, пра што ўвесь час кажа былы кіроўца аўтобуса, а цяпер прэзідэнт Балівaрыянскай Рэспублікі Венесуэла Нікалас Мадура. Ужо хто-хто, а ён цудоўна ведае, што значыць «ісці ад жыцця»!

Не, мы не самотныя ў сусвеце. Краін з адсталымі эканомікамі і аўтарытарнымі палітычнымі сістэмамі — у свеце большасць, такім чынам, за імі праўда! Аднак не ўсё так безнадзейна. Рух убок ад гэтай праўды ў бягучым годзе намеціўся. Але гэта не яго канец ці пачатак канца, гэта канец пачатку.

# «Лукашэнка ўжо нават не спрабуе спадабацца большасці»

Віталь ЦЫГАНКОЎ,
Радыё Свабода

**Доктар палітычных навук, дырэктар інстытута «Палітычная сфера» Андрэй Казакевіч разважае, чаму ў гэтай кампаніі Лукашэнка не мае ніякай станоўчай праграмы і перспектывы для краіны, тлумачыць, чаму ўладам не спадабалася нават памяркоўная лібералізацыя і яны яе згарнулі, і заяўляе, што ўсё, над чым працавалі апошнія 6 гадоў у адносінах з Захадам, цалкам знішчана.**



Кадр з фільма «Рабінзоны Манцінсаары»

***— Улада відавочна выбрала сілавы шлях у гэтай прэзідэнцкай кампаніі — але наколькі гэта было непазбежна? Фактычна, мяркую, напачатку план быў зусім іншы — каб выбары прайшлі спакойна і «элегантна». Але давялося прыбегнуць да старых, добра знаёмых рэпрэсіяў. Можа, улада пераацаніла пагрозу для сябе і занадта жорстка адрэагавала? Ці сапраўды пагроза ёй настолькі сур'ёзная?***

— Тут два моманты. Па-першае, мы назіраем правал на шмат якіх кірунках унутры самой сістэмы, у тым ліку па лініі спецслужбаў. Адыход ад лібералізацыі пачаўся ў Беларусі прыкладна два гады таму. Рубяжом былі мясцовыя выбары ў 2018-м. Сістэма ўсё больш закрывалася. У выніку яны загадзя не пралічылі ні Ціханоўскага, ні Бабарыку, інфармацыйна цалкам перасталі трапляць у настрої насельніцтва.

Па-другое, улада проста лянуецца гуляць больш складана. У мяне такое адчуванне, калі я гляджу на выступы Лукашэнкі: раней ён спрабаваў спадабацца большасці, выбіраў фразы, рыторыку — а цяпер неяк лянуецца працаваць у гэтым кірунку, падладжвацца пад аўдыторыю. Стаўка была зроблена проста на сілу і рэпрэсіі. Хоць было шмат іншых механізмаў, якія можна было выкарыстоўваць цягам гэтай кампаніі.

І гэта будзе мець відавочныя негатыўныя наступствы, якіх сістэма мусіла б пазбягаць усімі сродкамі.

***— Ужо на выбарах у 2015 годзе Лукашэнка не даваў папулісцкіх і фінансавых абяцанняў, ужо тады абыходзілася без раздачы падарункаў. Але цяпер нейкі іншы этап — няма не толькі абяцанняў, няма ніякай праграмы, не прадстаўлена ніякая перспектыва для краіны ў выпадку пераабрання.***

— Так. Але ў 2015 годзе была іншая сітуацыя. Была Украіна, і на гэтым фоне наяўнасць нейкай «стабільнасці» ўжо была значным пасланнем для насельніцтва. Па-другое, былі істотныя чаканні зменаў, калі не рэформаў. І змены, у прынцыпе, адбываліся, асабліва ў знешняй палітыцы. Былі чаканні эканамічных рэформаў, лібералізацыі. То-бок тады быў дастаткова выразны месідж, атмасфера ў краіне была зусім іншая.

Чаму цяпер улады нават не спрабуюць сфармуляваць нейкую візію на будучыню? Акрамя як збоем сістэмы, я гэта не магу патлумачыць. Гэта трэба было рабіць загадзя, некалькі месяцаў таму. Гэтага не адбываецца, і гэта відавочная памылка. Не было нават прэзідэнцкага паслання ці Усебеларускага Сходу.

Усё зводзіцца да формулы — «Калі вы хочаце, каб была нейкая стабільнасць, то ў вас ёсць я. А калі хочаце хаосу і крыві — паспрабуйце сказаць "не"». Вельмі нелагічная пазіцыя, небяспечная.

***— Паўтараецца амаль у кожным выступе Лукашэнкі пра «страшныя 90-я», пра пагрозу незалежнасці, пра замежных лялькаводаў. Няма ніводнага пазітыўнага лозунгу, ніводнай станоўчай праграмы дзеянняў, перспектывы. Абараніць тое, што ёсць, — адзіная фактычна праграма. Гэтым можна прывабіць выбаршчыкаў? Ці гэта проста часовая рыторыка?***

— У мяне такое адчуванне, што гэтая рыторыка ўжо незваротная. Калі гэта спрацуе і можна будзе ўтрымаць уладу толькі сілавымі захадамі, без электаральнай падтрымкі — дык усё, навошта тады нешта прыдумляць, каб заваёўваць сімпатыі большасці? Тым больш што ніякіх новых ідэяў няма — ні ў атачэнні прэзідэнта, ні ў яго самога. Працуе толькі адна, «абарончая» лінія. Падаецца, што «рэформы» і «лібералізацыя» ўладай успрымаюцца як асноўная прычына падзення рэйтынгу ды іншых складанасцяў, прычына таго, што пачалі з'яўляцца альтэрнатыўныя кандыдаты. Зараз вельмі вялікая верагоднасць, што сістэма проста закрыецца ў сваім кокане і перастане думаць пра тое, што трэба фармуляваць нейкае бачанне будучыні.

***— Лукашэнка палохае рэформамі, маўляў, у выніку адны наб'юць кішэні, іншыя пачнуць хадзіць з пустымі каструлямі. Фактычна, ён прызнае, што пры ягоным кіраванні істотных зменаў не будзе — «у нас і так усё добра, трэба захаваць тое, што ёсць». Якая частка насельніцтва Беларусі можа на сёння задавальняцца статус-кво?***

**Лукашэнка не першы раз палохае вяртаннем у 90-я. Але цяпер сітуацыя такая, што многія адчуваюць сябе ўжо ў 90-х. Асабліва ў рэгіёнах, з гэтымі заробкамі па 300 рублёў. І многія ўжо лічаць, што «горш ніяк не будзе»**

— Лукашэнка не першы раз ужо палохае вяртаннем у 90-я. Але цяпер сітуацыя такая, што многія адчуваюць сябе ўжо ў 90-х. Асабліва ў рэгіёнах, з гэтымі заробкамі па 300 рублёў. І многія беларусы ўжо лічаць, што «горш ніяк не будзе». І гэтая група вельмі павялічылася за апошнія паўгода.

Колькі людзей застаюцца стабільным электаратам Лукашэнкі на дадзены момант? Гэта тыя, хто баіцца замены ўлады, хто, можа, і шмат чым незадаволены, але баіцца альтэрнатывы. Паводле ўскосных даных, гэтая група — недзе 20–25 працэнтаў. Вядома, гэта ўсё прыблізна, вядома, шмат залежыць ад таго, каму мы проціпастаўляем Лукашэнку, якому кандыдату.

***— Улада зусім не думае пра наступствы сваіх цяперашніх дзеянняў ці яна лічыць, што галоўнае — неяк скончыць з гэтымі выбарамі, забяспечыць патрэбны вынік, а потым ужо разбірацца з наступствамі «па меры паступлення»? Аднак ужо можна казаць, што вынікам выбараў стане сур'ёзнае пагаршэнне адносінаў з Захадам, ажно да ізаляцыі, больш нахабныя паводзіны Масквы і, адпаведна, больш рэзкія сутычкі з ёй па многіх пытаннях.***

— Усё складаецца вельмі кепска. Парадокс сітуацыі ў тым, што гэта ўсё вельмі лёгка прадбачыць, настолькі гэта відавочна. Крокі ўлады падчас гэтай кампаніі адназначна прывядуць да пэўнай замежнапалітычнай ізаляцыі, прынамсі часовай. Невядома, якія формы набудзе рэакцыя Захаду — ці санкцыі, ці проста абмежаванне супрацоўніцтва, — але ўсё ідзе да таго, што гэтая рэакцыя вымушаная быць дастаткова жорсткай.

Тое, над чым працавалі апошнія 6 гадоў у адносінах з Захадам, цалкам знішчана. І гэта будзе мець вельмі сур'ёзныя эканамічныя наступствы. Нармалізацыя стасункаў з Захадам магла прынесці доступ да пэўных фінансавых рэсурсаў. Цяпер усё гэта ўскладняецца, гэтыя страты будуць адчувальнымі.

Нанесена глыбокая шкода бізнес-клімату, спрыяльнаму асяроддзю для прыцягнення інвестыцыяў у краіну. Вельмі прыкметным званком стала ўвядзенне часовай адміністрацыі ў «Белгазпрамбанку».

***— Вы на пачатку размовы сказалі, што лібералізацыя спынілася ўжо 2 гады таму. Чаму Мінск не ўбачыў для сябе выгадаў у гэтым працэсе і пачаў яго згортваць? Можа, еўрапейскія партнёры не пайшлі насустрач настолькі, наколькі гэтага жадала беларускае кіраўніцтва? Чаму адносіны Мінска і Захаду ўжо гады два як уперліся ў пэўную столь і не рухаліся наперад?***

— Адносіны з Еўрасаюзам — гэта стасункі стратэгічныя. Было б вельмі наіўна чакаць, што тут можна атрымаць вельмі хуткую і аднаразовую эканамічную выгаду. Альбо выбіваць яе кожны год, як у выпадку з Расіяй. З ЕС трэба выбудоўваць доўгатэрміновую стратэгію, трымацца пэўнага калідора, накладаць на сябе пэўныя абмежаванні. І паступова гэта дасць свой стратэгічны плён. Гэта не тое, што можна атрымаць за адзін год, і недарэчна было б разлічваць на хуткі эфект.

Тое самае з унутранай лібералізацыяй. Калі яна пачалася, то напал крытычнага стаўлення да Лукашэнкі быў значна зменшаны — прынамсі, наконт замежнай палітыкі. З'явіліся крамы, дзе можна было набыць нацыянальнае адзенне і сімвалы. Вядома, наіўна было чакаць, што ўсе апазіцыйныя людзі пачнуць любіць Лукашэнку і класціся за яго пад шпалы. Таксама недарэчна было чакаць, што прызначэнне адносна ліберальнага прэм'ера забяспечыць лаяльнасць ліберальна настроеных людзей на доўгія гады.

Такое адчуванне, што ўлады разлічвалі, што самыя сціплыя крокі па лібералізацыі прымусяць усіх апанентаў упісацца ў нейкі калідор — і далей можна нічога не рабіць, аўтаматычна будзе лаяльнасць. Але з гэтымі групамі насельніцтва, як і з любымі іншымі, трэба стала працаваць. А гэта цяжка, і ўлада зноў вярнулася да больш простых і традыцыйных для сябе сродкаў — рэпрэсіяў.

10 ліпеня 2020 | № 25 (684) Новы час

# Аляксей Жалібо: «У Беларусі бо нашы людзі ў ім

Ганна ВАРОНКА

**За творчасцю мастака, ілюстратара і дызайнера Аляксея Жалібо (@tot_chuvak_) у Instagram сочыць амаль 30 тысяч падпісчыкаў. Працы 27-гадовага творцы ў тэхніцы гравюра (стыль макабр), насычаныя змрочнай экспрэсіяй і сімвалічным адлюстраваннем рэальнасці, — яскравы прыклад сучаснага беларускага мастацтва.**

Пазнаёміцца з унікальным стылем маладога мастака можна было на аўтарскай выставе ў бары «Дэкантэр». Менавіта там падчас імправізаванай экскурсіі Аляксей Жалібо расказаў пра свае карціны і ілюстрацыі да кніг, сяброўства з Уладзімірам Цэслерам і светлы час, калі будзе квітнець беларускае мастацтва.



Каля аголеных партрэтаў з серыі «Патрабуецца аўтадафэ» Жалібо разважае:

— Сучасныя людзі не вельмі разумеюць мастацтва. Для іх важна, каб партрэт быў падобны. Я адкрыю таямніцу: любы мастак, які хоць нешта з сябе ўяўляе, зможа гэта зрабіць. Але партрэт будзе мёртвым. Я малюю, як адчуваю. Самі людзі сябе пазнаюць на партрэтах з серыі «Патрабуецца аўтадафэ», але вы б у жыцці не здагадаліся, хто гэта — нават калі іх паставіць тут у шэраг. Ну, Цэслера толькі ні з кім не пераблытаць (смяецца).

Фішка — у эмоцыях, не трэба шукаць прамую сувязь, дастаткова ўнутраных адчуванняў. У кожнай асобы, выяўленай на малюнках, свой цікавы лёс: тут ёсць выкладчыкі, вядомыя скульптары, медыкі, 3D-мастакі, героі працы. І тут адлюстроўваецца, наколькі чалавек можа быць цікавым без знешняй абалонкі — адзення, статусу і гэтак далей.

Мне доўга казалі, што я не ўгавару Цэслера на партрэт, але ён пагадзіўся адразу ж. Уладзімір Якаўлевіч вельмі просты і круты. Пагадзіўся наогул без роздумаў, мо таму што ўжо быў знаёмы з маімі працамі. Мы з ім дамовіліся на дзень, прыходжу, грукаю ў дзверы — ён адкрывае напаўголы. «Дык вы ўжо падрыхтаваліся! — кажу. — А? Не, я проста ў душ ішоў, сядайце». Ну, я пасядзеў, папіў гарбаты, ён выйшаў з душа, і мы намалявалі партрэт.

(Прыпыняецца каля карціны) А гэта праца, якая ўпершыню зрабіла мяне хоць неяк вядомым: «Скелекот», там вельмі шмат адсылак на беларускую культуру. Гэта алхімік, які няўдала ператварыў сябе ў ката, а вакол адбываюцца розныя сюжэты. Я яе намаляваў пасля знаёмства з нашым класікам Валерам Славуком у 2014 годзе, ён на мяне вельмі паўплываў. Увогуле, у мяне няма ніводнай працы без сімвалізму.



З Уладзімірам Цэслерам

***— А як адбываецца працэс: вы ўяўляеце сімвалічны вобраз і яго адлюстроўваеце ці, наадварот, малюеце, а потым знаходзіце там сімвалізм?***

— Па-рознаму. Бывае, сплю, і сон становіцца апантанасцю. А часам проста хочацца намаляваць нешта ў скетчбуку. Парада Валера Славука, якую я запомніў назаўсёды: больш чытайце. Дзякуючы гэтаму ў галаве нараджаюцца думкі, і толькі тады ты можаш стварыць нешта вартае. Але бывае і канкрэтная ідэя. Мы з Уладзімірам Цэслерам абмяркоўвалі тэму нашага замшэлага мастацтва (гэта праўда, не хачу хаваць) і прыдумалі фон для яго партрэта. Я вырашыў намаляваць працэс гарэння хат і Цэслера, які смажыць сасіскі на папялішчы, як сімвал супрацьстаяння класічнаму мастацтву.

Але галоўнае — у сваіх працах я хачу перамагчы тое, што называю сацыяльным фашызмам, то-бок нецярпімасць да поглядаў іншых людзей. Вось, напрыклад, я невялікага росту і хаджу ў ружовых штанах, вы не ўяўляеце, як часта да мяне нехта дакопваецца! Я падтрымліваю рацыянальны фемінізм і маю шмат знаёмстваў у гэтым асяроддзі. Дык многія думаюць, што праблема хатняга гвалту тычыцца толькі жанчын. Але яна адносіцца і да маленькіх людзей (усміхаецца), людзей з пэўнай прычоскай, арыентацыяй і гэтак далей.

Мне вельмі спадабаўся нядаўні фільм Аляксея Піваварава «Як ізаляцыя разваливае адны пары і ўмацоўвае іншыя» пра розныя тыпы сем'яў. Традыцыйная сям'я падыходзіць не ўсім. Уся справа ў дамоўленасці. Усё ўпіраецца ў адукацыю: калі людзі будуць дастаткова развітыя, гвалт у сям'і знікне як з'ява. Я веру ў права выбару чалавекам свайго лёсу і стараюся адлюстроўваць гэта і ў сваіх працах — так ці інакш. Але мае малюнкі набываюць людзі інтэлектуальныя, тыя, хто разумее сэнс. Дарэчы, хутка выйдзе шэраг праілюстраваных мной кніг, выданне якіх спынілася праз каронавірус. У тым ліку і асабістая, дзе і тэкст, і малюнкі майго аўтарства.

***— Ох, няўжо аўтабіяграфія?***

— Я, вядома, пафасны, але не настолькі, каб аўтабіяграфію пісаць (смяецца). Кніга пра тое, хто такі мастак. Не, там не будзе: «Вось, я мастак, глядзіце, любіце». Яна досыць суб'ектыўная, спрабуе ўвесці ў мой свет каляровай гамай, шрыфтам, дызайнам. Пакуль няма вокладкі, дзвюх ілюстрацый, і, самае галоўнае — не прыдумаў назву. Увогуле, была ідэя назваць кнігу «Скетчбук-альбомы». Але варыянт не надта ўдалы, таму яшчэ буду думаць (смяецца). Яшчэ з-за каронавіруса мы ўсё не можам надрукаваць кнігу вершаў пра хлопчыка Джоні, якую напісаў даволі вядомы галівудскі фатограф Тэрэн Одда.

Там увогуле дзіўная сітуацыя. Я скончыў ілюстраванне, а аўтар проста знік. Заставаліся дакументы, дамовы, але ўсё адно падаць у амерыканскі суд вельмі дорага. І ў нейкі момант мы вырашылі выкласці некаторыя малюнкі ў маім творчым інстаграм-акаўнце @tot_chuvak_. І Одда адгукнуўся. Аказалася, ён перажыў жудасную трагедыю — у аўтакатастрофе загінула сям'я. Таму, натуральна, давялося адкласці выхад кнігі. Па вялікім рахунку, я маю толькі адну выпушчаную кнігу з маімі ілюстрацыямі «Волаты. Ілюстраваны даведнік» Давіда Шаркоўскага. Але хутка гэта зменіцца — чатыры павінны выйсці бліжэйшым часам.

***— З чым звязаны псеўданім tot chuvak?***

— Яго прыдумаў мой сябар дзяцінства. Мы ехалі ў Піцер, мне было гадоў 19. І ён кажа: «Чаму ты не завядзеш сабе старонку ў Instagram? У цябе ж з сабою скетчбук, давай што-небудзь сфатаграфуем, і ты апублікуеш». Мы пачалі думаць, як можна назваць акаўнт. А на розных тусоўках пра мяне якраз так і адгукаліся: «А, той чувак! Памятаеш, той чувак?» І вырашылі, што гэта было б смешна. Але адрас без прабелаў заняты нейкім школьнікам. Я да гэтага часу яму пішу! Каб ён аддаў свой нік, ужо нават прапаноўвалі грошы, але ён не карыстаецца тым акаўнтам, нічога не зробіш.

Я не вельмі прывязаны да псеўданіму, але для нас, дзяцей 1990-х, згадванне прозвішча — гэта як цэтлік са школьных часоў. Тым больш, маё вельмі часта называлі няправільна. У той час яно мне здавалася дзіўным, і я яго саромеўся. Цяпер бы ўжо назваў творчы акаўнт сваім сапраўдным імем. Але вядомасць у мяне як tot chuvak, таму не бачу сэнсу гэта мяняць.

***— Прозвішча Жалібо, быццам, французскае?***

— Арыгінал прозвішча — Жэліба. Больш падобна да французскага, што ў савецкі час магло аўтаматычна быць прылічана да дысідэнцтва. Таму дзядуля яго змяніў. Увогуле, мы — патомныя рамеснікі. Абедзве галіны радавода (Харытановіч і Жэліба) ідуць ад прыдворных рамеснікаў часоў Рэчы Паспалітай. Прынамсі, так гавораць бабулі. Адзін продак быў пісарам, з другога боку — ганчаром. А бацька — інжынер-будаўнік па адукацыі, але займаецца глупствам, бо філігранна робіць рэчы з дрэва. Амаль уся мэбля ў хаце зробленая ім. Таксама тата добра малюе, але хавае, не прызнаецца. З боку маці дзед спяваў у хоры, і ў яго быў скетчбук (у той час!) Там ён запісваў складзеныя песні і маляваў да іх ілюстрацыі. У мяне з-пад носа пацягнула гэтую кніжачку сястра. Усё спрабую прыхапіць яе назад (смяецца). Ну, такія падпольныя малявальшчыкі. Напэўна, толькі мне прыйшло ў галаву гэта рэалізоўваць.

***— І, трэба сказаць, паспяхова, маркуючы па рэгулярных выставах у Беларусі і за мяжой. А таксама па шэрагу перамог у прафесійных конкурсах — Minsk game jam 2016, TopCreator 2017 і іншых…***

— Унутры гэта прыемна, але звонку нічога не дае. Я, напэўна, да сваіх скетчаў стаўлюся больш беражліва, чым да рэгалій і дыпломаў — усе складаю і захоўваю на лецішчы. А вось да дакументаў у мяне нейкае грэблівае стаўленне. Калі вы мяне папросіце знайсці працу, дзе я маляваў кагосьці ў 2017 годзе — гэта без праблем, як рыбу з акіяну дастану гэты скетч. Дзе дакументы — без панцыя. Прынцыпова захоўваю грошы і паперы ў маці. Я хоць і не з габрэйскай сям'і, але вельмі на тое падобна (усміхаецца). А што? Усе ўжо зразумелі, што я іх згублю. Нават пашпарт, калі паступаў у ЕГУ, згубіў, і хадзіў на экзамены з даведкай…

***— Ну, гэта вельмі па-мастацку!***



# няма мастацтва, не разбіраюцца»


Скелекот

— Так, напэўна. Але я пра гэта не думаў. Мастацкі шлях пачынаецца, як мяне навучыў мой выкладчык ЕГУ Сяргей Міхайлавіч Сялецкі, калі ты пра гэта не думаеш. Калі пачынаў, я быў бяздарнасцю. Так, Сялецкі паставіў мне за экзамен па малюнку пяць балаў. І ў тым ліку і праз гэта давялося сысці з універсітэта, але потым перапаступіў. Калі мяне выключылі, аднагрупнікі даносілі, што ён увесь час пра мяне ўспамінае: «Вось, а Аляксей зрабіў бы так». Пры мне ён такога не сказаў бы ніколі! Такая дзіўная ўзаемная любоў... Аднойчы быў занятак па падрыхтоўцы да дыпломнай працы. І, замест таго, каб глядзець студэнцкія работы, пачаў лістаць мае скетчбукі: «Стоп, гэта ты намаляваў? І прыдумаў сам?» Усё прагледзеў, закрыў, апранае паліто і проста сыходзіць. «Сяргей Міхайлавіч, можа, вы нешта параіце мне? — крычу наўздагон. — Я калегам нічога не раю». З-за працы я не скончыў ЕГУ, ні адзін з універсітэтаў не скончыў: на двух курсах кінуў Акадэмію мастацтва, на трох — ЕГУ. Апошнія гады нічога не вырашаюць, толькі даюць дыплом. Паперка, якую я згубіў бы, хутчэй за ўсё (смяецца).

***— Не шкадуеце, што не атрымалі дыплом?***

— Не, можа, першы час. Я перажываў расстанне з групай. З некаторымі вельмі пасябраваў, мы тыя яшчэ бандыты былі. Здымалі з двума хлопцамі — Кірылам Нікалаевым і Арцёмам Ярашчуком — кватэру: уладкоўвалі там усё, распісвалі, з-пад скрынкі ад печыва і светладыёдаў зрабілі раму для карціны, якая спадабалася Сялецкаму, павесілі на кухні. Мы вельмі лямпава і класна тусілі ўвесь студэнцкі час. Кірыл цяпер вядомы дызайнер па VR у Літве. А Арцём Ярашчук у Брэсце, займаецца інтэр'ерамі, хоча сваю студыю адкрыць.

У прынцыпе, у нас атрымаўся зорны курс. Фактычна ніхто не закінуў прафесію. У адрозненне ад Акадэміі мастацтваў, дзе выпускаецца шмат мастакоў, але добра, калі з двух-трох курсаў будзе хаця б адна ўмоўная «зорка».

***— Ад чаго гэта залежыць? Ад выкладання?***

— Самае банальнае — там вельмі мала плацяць выкладчыкам. Але я б з задавальненнем пайшоў выкладаць і ў Акадэмію мастацтваў, і ў Інстытут культуры, у гімназію-каледж імя Ахрэмчыка нават за малыя грошы. Разумею, які важнае будучае пакаленне. Справа ў тым, што наўрад ці там мне дадуць выкладаць, як я хачу. Хаця лічу сябе значна больш таленавітым выкладчыкам, чым мастаком, ведаю, як з любой ідэі зрабіць нешта вельмі крутое. Я выкладаю у студыях «Квадрат» Паўла Хадаровіча, «Cidr», «Kaplan school». А аднойчы арганізацыя «Промтэхадукацыя» паклікала мяне перапрафіляваць «дармаедаў». І я, як «малады перспектыўны спецыяліст» перавучваў дарослых людзей на дызайнераў, хаця сам тады лічыўся «дармаедам» (смяецца).

***— Якія людзі там былі?***

— Вельмі розныя. У меншасці, на жаль, таленавітыя. Любімая парачка — два мужчыны пад 50, адзін дызайнер Анатоль, другі — журналіст Аляксей. Увесь час спрабавалі перашкодзіць правядзенню параў, і, маркуючы па ўсім, пасябравалі і цішком падбухвалі. Але запомніліся і двое маладых вельмі таленавітых хлопцаў. Не ведаю, ці дамагліся яны звышпоспеху, але я бачыў іх працы — яны вельмі годныя.

Я там прапрацаваў месяцы тры, потым дзяржава закрыла гэтую ініцыятыву. Не з-за мяне (усміхаецца), там не толькі я выкладаў. Пакуль у «Cidr» прыпынілі працу праз пандэмію, я раблю аўтарскі курс «RISOVATDESIGN». Спрабую зрабіць гэта неяк анлайн. Адзін тэставы бясплатны занятак правялі, здаецца, прайшло нядрэнна. Будзем у гэтым кірунку рухацца.

***— У вашым Instagram апублікаваны пост з фотаздымкамі вашай кватэры. У ракоі вісяць два партрэты Леніна. Меркаванні ў каментарах разышліся. З чым звязаны выбар выяваў менавіта гэтага дзеяча?***

— Мне не падабацца, калі кагосьці бяздоказна абвінавачваюць.


Літара О

Спачатку была такая гісторыя: у мяне затрымаліся працы ў Рызе пасля выставы, у кватэры былі голыя сцены. А аднекуль павыкідалі партрэты Маркса і Леніна, і я іх павесіў. Гэта не прымеркавана ні да чаго. Так, мне імпануе сацыялізм. Я не разумею, чаму ў дачыненні да камунізму адразу кажуць аб крывавым Сталіне і рэпрэсіях. Калі б у мяне дома візеў партрэт Сталіна і праз гэта былі б прэтэнзіі, я б зразумеў. А наконт Леніна пакуль мяне ніхто не пераканаў. Я ў каментарах не жартаваў, што, калі нехта дакажа, што Ленін — нявартЫ чалавек, я адразу спалю гэтыя партрэты. Пакуль тыя дакументы і факты, якія я бачыў, даказваюць толькі тое, што ён аб'яднаў вялікую колькасць неаб'яднаных народаў.

***— Вышэй вы казалі пра «сацыяльны фашызм». Гэта ніяк не супярэчыць з дэкрэтам «Аб чырвоным тэроры» 1918 года, па якім знішчаліся людзі па прынцыпе іх класавай прыналежнасці? Ці з тэлеграмай Леніна ў Пензенскую губерню, дзе ён прызывае да павешання сотняў людзей, што ўзбунтаваліся з-за прадразгорткі? І яшчэ шматлікімі іншымі дакументамі, што даўно ў агульным доступе?***

— «Чырвоныя» і «белыя» ваявалі паміж сабою. Цяпер мы, вядома, усе разумныя і начытаныя. Цяпер мы не паступаем такім чынам. А людзі перажывалі тую сітуацыю ўпершыню. І ў той час былую імператарскую Расію ахапіў хаос. Краіна развальвалася, і яе хоць неяк сабралі. У той сітуацыі, мне здаецца, гэта было правільна. Уласна, Мікалай II таксама давёў краіну да ручкі, і «Крывавым» яго назвалі не проста так. У каго цяпер ні спытаеш, усе сваякі — дваране! Як гэта магло быць, калі гэтага дваранства было некалькі працэнтаў? Я ведаю гісторыі, якія перадаваліся з вуснаў у вусны ад маіх бабуль і дзядуляў: людзі таго часу былі вельмі крывавымі самі па сабе. І забіць чалавека было ў той час натуральнай справай. Калі б асабіста Ленін, калі ўжо прыйшоў да ўлады, рабіў такія бясчынствы, тады гэта ўжо іншае пытанне. Палітыка — брудная рэч заўсёды.

***— Пакінем Леніна ў спакоі. Прачытала ў вашых акаўнтах у сацсетках такое: «Ніколі не любіў тусоўкі мастакоў, паэтаў і музыкаў. <...> Пад уплывам вашай тусоўкі вы будзеце пад ціскам не лепшага з вас, а самага гучнага».***

— Добры кіраўнік — гэта той, хто можа ў нейкі момант устаць: «Не, мы нейкую лухту робім, давайце паспрабуем па-іншаму». Гэта лепш, чым чалавек, які да канца будзе апраўдваць сваю шызу. Я не адмаўляюся ад сваіх слоў, бо знаёмы з многімі маладымі мастацкімі тусоўкамі. І яны рэальна непрымірымыя, змяінае кубло. Я не хачу сказаць, што там дрэнныя людзі, але ў цэлым за кошт сваіх індывідуальнасцяў аб'яднаць іх малаверагодна. А для дарослых, спадзяюся, магчыма. Не так даўно мы заснавалі мастацкае аб'яднанне «Я тут». Узначаліў гэты рух Аляксей Лосік. Ён вельмі спакойны і флегматычны. Мне здаецца, усё ж сярод дарослых адэкватных людзей, якія ідуць на дыялог, аб'яднанню быць.

***— Колькі ні размаўляю з беларускімі мастакамі, усе кажуць, што для іх прафесіі ў Беларусі неспрыяльныя ўмовы, а на заробак немагчыма пражыць. Як у вас?***

— Мае працы прадаюцца на Захад. Для рэалізацыі пачатковага этапу наша краіна някепская, але тут ёсць столь — проста няма дастатковай колькасці заказаў, і таму вымушаны прадаваць за мяжу. Ад гэтага пакутуюць нават вельмі таленавітыя мастакі. Той жа Валер Славук — надзвычайны, па навыку гравюры няма лепшага ў краіне мастака. Але калі ўзяць аб'ём продажаў, мы, напэўна, з ім нароўні. Толькі таму, што ён не хоча губляць аўтэнтычнасць і не пашырае працы ў інтэрнэце.

У цэлым, пакуль у Беларусі не будзе нармальнай мастацкай адукацыі, нічога не будзе. Не трэба вучыць дзяцей маляваць цені і конусы, трэба на банальных прыкладах знаёміць з мастацтвам. Розным мастацтвам! Каб настаўнік прыходзіў з рэпрадукцыямі Іллі Рэпіна, Казіміра Малевіча ды самых розных іншых творцаў і паказваў, як глядзець на карціну, яе хібы і каштоўнасці. І тады вырасце пакаленне, якое разбіраецца ў мастацтве. На Захадзе — шматмільённы абарот мастацтва. У нас яго няма, таму што нашы людзі ў ім не разбіраюцца.

Гадоў у 20 я ездзіў у Берлін па справах ад універсітэта, і жыў у сям'і немцаў. Яшчэ тады, калі я і блізка не прэтэндаваў на нешта вартае, мне тая нямецкая жанчына (якая працавала сядзелкай!) сказала: «Гэта патэнцыйна вельмі вартыя працы. Я хачу паглядзець на цябе праз пяць гадоў». А ў нас такой культуры пакуль няма.

Быў паказальны выпадак. Студыя Хадаровіча (а ў яго вельмі добры каларыстычны жывапіс), бачу ў куце нейкая карціна з жудаснымі кветкамі стаіць. Ну, мне ў ноздру пэндзлік устаў — я намалюю таксама! Натуральна, так я яму і сказаў. І ён такі: «Не трэба, я ведаю». І проста ў гэты ж час прыходзіць жанчына, і забірае гэтую карціну: «Ой, мае кветкі! Такая цудоўная праца!» А побач стаяць яго сапраўды вартыя карціны — яна іх нават не заўважыла!

У нас жа як: «Ой, цвяточкі! Я вазьму», «Ой, партрэт! Як пахожа!» Калі людзі пачнуць разумець, чаму гэтая карціна каштуе тры капейкі, а гэтая — дзесяць, тады зажывём. Як трэніровачны палігон наша краіна падыходзіць. А як для максімальнай рэалізацыі — на жаль, мы яшчэ не гатовыя.

***— Не было думкі з'ехаць з Беларусі?***

— Пастаянна! (Смяецца). Але я — неўсвядомлены фаталіст. У фатум не веру, але такое адчуванне, што ён верыць у мяне. Мяне як быццам не пускае. Было досыць варыянтаў: і застацца ў Літве, і з'ехаць у Германію. Але вярталі нейкія дзіўныя падзеі: ад вельмі крутых выстаў да смерці сваяка. Я ўсё ж дзіўны, незразумелы, але патрыёт. Незадаволены, гідкі, але патрыёт. Лічу беларусаў самай злоснай нацыяй, але ўсё адно люблю.

Вось заўважце, у нас людзі ніколі не скажуць, але ў галаве будуць трымаць. Але я якраз прызнаю нашы недахопы, і з гэтым спрабую працаваць. Гэта і ёсць сапраўдная любоў да Радзімы, а не гэты ўра-патрыятызм: «Мы зрабілі лухту, але давайце хваліць».

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Надыходзіць эра распусты?

Аўтарытэтнае выданне Financial Times прапанавала цікавую трактоўку феномена Roaring twenties («Равучыя дваццатыя»). Так вельмі часта называюць другую дэкаду мінулага стагоддзя, якой былі ўласцівыя лібералізацыя маральных нораваў, эмансіпацыя жанчын, калектыўнае захапленне музыкай (джаз), цікавасць да алкаголю і гэтак далей.

Дагэтуль гісторыкі не разумеюць, чаму сто гадоў таму людзей ахапіў такі ўгар геданізму. Лічылася, што гэта было вынікам Першай сусветнай вайны. Тыя, хто выжыў у крывавай мясарубцы, натуральна, намагаліся праз танцы, секс і алкаголь забыць жахі вайны. У сваю чаргу, Financial Times нагадаў, што людзі хацелі не толькі забыць пра вайну, але і пра эпідэмію «іспанкі» — грыпу, які на мяжы 1920-х забіў каля 20 мільёнаў чалавек на планеце. Калі эпідэмія прайшла, людзей ахапіла эйфарыя, якая вылілася ў глабальную гулянку.

Гэтая версія дазваляе задумацца: што будзе пасля таго, як скончыцца эпідэмія каронавіруса? Няўжо таксама нейкі аналаг Roaring twenties? На думку выдання — менавіта так.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Музыку ў кожны клас!

Кіраўнік Узбекістана Шаўкат Мірзіёеў абвясціў, што ў атэстаце ўзбекскіх вучняў павінна быць адзнака па валоданні нейкім музычным інструментам. Спачатку новаўвядзенне закране толькі Намангансукую вобласць (менавіта падчас візіту ў гэты рэгіён Мірзіёеў агучыў ініцыятыву). Калі эксперымент будзе прызнаны паспяховым, ён распаўсюдзіцца на ўсю рэспубліку.

Ідэю паставіць валоданне дойрай (адзін з самых папулярных ударных інструментаў сярод узбекаў — нешта кшталту бубна) або піяніна ў адзін шэраг з матэматыкай і фізікай кіраўнік дзяржавы растлумачыў неабходнасцю аднаўляць культуру, бо без «духоўнай ежы» ў народа не будзе дасягненняў.

З'яўленне новай дысцыпліны выклікала рэзананс у грамадстве. Многія ўзбекі прызналі ідэю абсурднай, паколькі, каб стаць музыкам, патрэбныя пэўныя якасці: слых, пачуццё рытму, урэшце талент. Але знайшлі ў заяве Мірзіёева і пазітыў. Па-першае, вучыцца музыцы лепш, чым штудзіраваць кнігі гаранта ў рамках асобнага прадмета: такая практыка была ў краіне пры Карымаве. Па-другое, калі з дзіцяці нічога не атрымаецца, дык хоць на вяселлі на дойры зайграе. Вось і зарабіў!

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Помнік без галавы

Як вядома, хваля палявання на помнікі гістарычным асобам дабралася і да Германіі. Ужо здараліся спробы нападу на помнікі і шыльды, прысвечаныя палітыкам часоў Германскай імперыі. У фокус увагі грамадскасці сярод іншых трапілі манументы канцлеру Бісмарку. Кампрамату на яго хапае. Бісмарк у часы сваёй кадэнцыі пераследаваў каталікоў, палякаў, сацыял-дэмакратаў і, нарэшце, стаяў каля вытокаў германскай каланіяльнай палітыкі ў Афрыцы. Аднак, з іншага боку, «жалезны канцлер» зрабіў шмат добрых спраў: напрыклад, заснаваў пенсійную сістэму. Свой варыянт кампрамісу прапанаваў адзін з пастараў Гамбургу, дзе знаходзіцца самы вялікі помнік Бісмарку ў свеце — вышынёй 34 метры. Пастар прапануе пакінуць помнік, аднак пазбавіць яго галавы. Па яго словах, такім чынам помнік Бісмарку страціць сваю сілу ды манументальнасць і перастане раздражняць крытыкаў. Рэакцыя на прапанову пакуль незвычайная. У інтэрнэце задаюцца пытаннем: а чаму для рэабілітацыі Бісмарка трэба пазбавіць помнік менавіта галавы? Магчыма, помнік страціць свой некарэктны падтэкст, калі канцлеру проста адбіць нос або вусы.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. «Пуцін дзень»

Калі верыць расійскай незалежнай прэсе, эпапея з папраўкамі ў Канстытуцыю працягнецца і пасля рэферэндуму 1 ліпеня. Сцвярджаюць, што ў Крамлі задумаліся пра перанос Дня Канстытуцыі, які цяпер святкуецца 12 снежня (у гэты дзень у 1993 годзе расіяне прагаласавалі за ельцынскі варыянт Асноўнага закону). Гучаць заклікі святкаваць Дзень Канстытуцыі 4 ліпеня, калі апошнія папраўкі набылі моц. А паколькі тыя карэкціроўкі тычацца паўнамоцтваў прэзідэнта, то ў народзе, як піша прэса, новае свята дакладна будуць называць «Пуцін дзень». На карысць версіі пра новае свята працуе і тое, што 4 ліпеня ЗША святкуюць Дзень незалежнасці. Такім чынам, за кошт новай чырвонай даты ў расійскім календары пазначаецца статус Расіі як роўнавялікай Злучаным Штатам геастратэгічнай сілы.

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.styler.rbc.ua

# Я стаміўся, але не сыходжу!

Алег НОВІКАЎ

**Па выніках рэферэндуму ў Расіі Пуцін атрымаў права заставацца ў Крамлі аж да 2036 года. Ці сапраўды магчымы такі сцэнар?**

«У 2008 годзе я пайду ў апазіцыю і буду лаяць уладу». Сёння многія медыя з іроніяй узгадваюць гэтыя словы Пуціна, якія ён сказаў на пачатку нулявых. Вынікі апошняга ўсенароднага апытання па папраўках у расійскую канстытуцыю ў тым ліку даюць Пуціну права абірацца яшчэ на два тэрміны. Такім чынам, прэзідэнцтва Пуціна можа падысці да канца толькі ў 2036 годзе, калі яму ўжо будзе 84 гады. Дарэчы, шмат хто з дапамогай графічных праграм спрабуе ўявіць, як будзе выглядаць расійскі кіраўнік на гэты час.

Па меншай меры з такім прагнозам згодны большасць заходніх медыя. «Гэта (рэферэндум) — пасланне апанентам як унутры краіны, так і за мяжой. Яго сутнасць у тым, што няма сэнсу зазіраць наперад або гадаць пра патэнцыйных пераемнікаў. Калі не адбудзецца чагосьці шакавальнага, Захаду давядзецца яшчэ вельмі доўга мець справу менавіта з Уладзімірам Пуціным», — піша The Globe and Mail (Канада). На карысць гэтай версіі і апошнія заявы Рамзана Кадырава. Ён па слядах рэферэндуму адкрыта заявіў, што Пуцін павінен стаць «пажыццёвым прэзідэнтам».

Зрэшты, многія каментатары адзначаюць, што ў такога сцэнару ёсць нямала рызыкаў і фактараў, якія могуць перашкодзіць дзейнаму прэзідэнту кіраваць краінай амаль пажыццёва. На іх думку, абнуленне не азначае, што Пуцін абавязкова будзе абірацца ў пяты раз.

Звяртаюць увагу на тое, што права Пуціна пераабірацца не азначае аўтаматычнага абавязку абірацца. Хутчэй за ўсё гэта будзе залежаць ад сітуацыі як у свеце, так і ў Расіі. Наяўнасць права на перавыбранне хутчэй можа разглядацца ў якасці страхавочнага механізму для сістэмы. Калі б Пуцін не меў права на новы тэрмін, магла б разгарнуцца барацьба паміж яго патэнцыяльнымі пераемнікамі. Адначасова ўплыў самога Пуціна як адыходзячага лідара стаў бы хутка зніжацца.

Таму заслугоўваюць увагі думкі пра тое, што, заручыўшыся «шырокай народнай падтрымкай», Пуцін сыдзе раней, паспрабаваўшы пакінуць за сабой фактычны кантроль за ўладай. Да гэтага часу ён прэзентуе расіянам свайго пераемніка, а магчыма нават цэлую пляяду.

Такі прагноз дае глебу для аптымістычных чаканняў. Справа ў тым, што інстытут спадчыннікаў у Расіі мае своеасаблівы характар. Вельмі часта пераемнік правадыра не быў паслядоўным прадаўжальнікам яго лініі. Той жа Хрушчоў змяніў Сталіна, каб развянчаць культ асобы.

Акрамя таго, царскія амбіцыі Пуціна могуць стрымаць меркаванне грамадзян. Апазіцыянеры ўпэўненыя, што толькі 54, а не 77 працэнтаў расіян падтрымліваюць права Пуціна пайсці на чарговы тэрмін. Пры гэтым, паводле разлікаў антыпуцінцаў, вялікая колькасць расіян — 38 працэнтаў — галасавалі супраць новай рэдакцыі Асноўнага закону. Акрамя таго, за дваццаць пуцінскіх гадоў у выбаршчыкаў ужоназіраецца стомленасць ад дзеючага прэзідэнта. І гэта яшчэ не фінал. Ведаючы гэтую сацыялогію, Пуцін можа з часам па сваёй ініцыятыве адмовіцца ад шапкі Манамаха.

Рашэнне Пуціна пра сыход на пенсію можа ў тым ліку пaскорыць сітуацыя з эканомікай. Аналітыкі прагназуюць, што цана на нафту наўрад ці істотна вырасце ў бліжэйшай будучыні, а значыць, эканоміку і бюджэт чакаюць не лепшыя часы. Пуціну, які неаднаразова казаў, што хоча ўвайсці ў падручнікі гісторыі як вялікі лідар, наўрад ці захочацца адказваць за такі маштабны калапс.

Хоць ёсць і іншы варыянт — паводле яго, праз немагчымасць рэфармаваць эканоміку Пуцін наважваецца на невялікую ваенную авантуру ў блізкім замежжы. Такую аперацыю некаторыя прагназуюць на сярэдзіну 2020-х гадоў. Перамога, калі верыць аматарам версіі, выкліча часовую эйфарыю, але толькі адтэрмінуе метастазы расійскай гаспадаркі з усімі наступствамі.

Нарэшце, ёсць такі фактар, як узрост і спадарожныя фізіялагічныя фактары для арганізма прэзідэнта. «Нявырашанасць праблемы пераемніка Пуціна папросту адкладаецца да тых часоў, калі скончыцца час на біялагічным гадзінніку», — піша нямецкая прэса. Такім чынам пуцінская стабільнасць на самай справе грунтуецца на хісткім падмурку. Ужо падлічылі, што да 2030-га Пуцін будзе як састарэлы Брэжнеў. Гэта патэнцыйна можа выклікаць параліч улады, які, у сваю чаргу, можа запусціць працэс дэзінтэграцыі краіны і дэстабілізацыю.

У гэтым плане не выключаюць, што Пуціна прыбярэ яго ж атачэнне. Яго прадстаўнікі нібыта разумеюць: трымаць Пуціна на троне да скону дзён — значыць, канчаткова зруйнаваць аўтарытэт улады. Дый чалавек каля руля ядзернай дзяржавы з усімі зменамі асобы, уласцівымі старэчаму ўзросту — гэта небяспечна.

Увогуле, усе згаджаюцца з тым, што рашэнне пра чарговы тэрмін будзе залежаць ад паводзінаў расіян, іх гатоўнасці пратэставаць і выказваць свой пункт гледжання. У гэтым плане ім трэба відавочна браць прыклад з ненцаў. Ненецкая аўтаномная акруга аказалася адзіным суб'ектам РФ, дзе большасць удзельнікаў галасавання выказалася супраць прапанаваных паправак у Асноўны закон краіны — 54% «супраць», 45,01% — «за».

Так ці інакш, дамінуе меркаванне, што, хутчэй за ўсё, рашэнне пра магчымае вылучэнне Пуціна на чарговы тэрмін будзе прымацца бліжэй да 2024 года.

# «Перафарбаваць» Ісуса

Алег НОВІКАЎ

**Праз больш чым 2000 гадоў існавання хрысціянства яго адэпты калектыўна задумаліся над пытаннем, якога колеру была скура ў Ісуса?**


Фота www.pinterest.ru

Цяперашняя эпідэмія каронавіруса не абышла бокам хрысціянскі свет. Большасць храмаў у шматлікіх заходніх краінах дасюль не дзейнічаюць. У Злучаных Штатах увогуле ўвесну зачыніліся 90 працэнтаў прыходаў. Аднак самаізаляцыя не перашкаджае вялікай дыскусіі з удзелам не толькі вернікаў, але і вялікай часткі грамадства.

У цэнтры дэбатаў, трыгерам якіх сталі антырасісцкія пратэсты па ўсім свеце, расавая прыналежнасць Хрыста і, адпаведна, колер яго скуры. Усё таму, што стала модна сцвярджаць пра еўрацэнтрычнае выяўленне Ісуса. Яно, маўляў, выкарыстоўваецца для ўмацавання панавання белых і навязвання расісцкіх стэрэатыпаў, якія адначасова дэманізуюць чорных людзей. Таксама кажуць, што выяўленне Ісуса белым — абразлівае ігнараванне нават магчымасці таго, што ў Сына Божага мог быць чорны колер скуры. Адсюль робіцца катэгарычнае рэзюмэ: «Статуі белага еўрапейца Ісуса павінны знікнуць!»

Трэба сказаць, што такія забабоны — не новыя. Чальцы адной з фракцый афраамерыканскага пратэстанцкага руху прыкладна з 1930-х гадоў заяўляюць, што Ісус быў чорным, і ўвогуле прыйшоў у Іерусалім з Чорнага кантынента. За доўгі час аматары дактрыны, прыхільнікам якой быў, дарэчы, і Марцін Лютэр Кінг, распрацавалі мноства аргументаў у абарону свайго тэзісу. Напрыклад, кажуць пра памылку падчас перакладу Бібліі, калі замест «чорныя людзі» пісалі «бедныя людзі», і гэтак далей.

У вачах вядучых хрысціянскіх цэнтраў канцэпцыя «чорнага Ісуса» ўвесь час выглядала такой жа маргінальнай, як распрацоўкі феміністак, якія давodзілі, што Сын Божы быў жанчынай. Аднак на фоне цунамі маніфестацый антырасістаў ідэя, падаецца, пачала набываць адзнакі мэйнстрыму. Як доказ — свежыя выказванні новага архібіскупа Ёрку. Ён заявіў, што Ісус быў чорным чалавекам, а кіраўніцтва царквы ў Англіі па-ранейшаму занадта белае.

Шмат пішуць у медыя таксама пра англіканскую царкву, у адным з сабораў якой з'явілася арыгінальная варыяцыя вядомай карціны «Таемная вячэра» з чарнаскурым Хрыстом. З улікам таго, што арыгінал «Таемнай вячэры» намаляваў Леанарда да Вінчы, адразу паўстала лагічнае пытанне датычнасці мастака да прапаганды дамінавання белых еўрапейцаў. Як жартуюць на форумах, да адказнасці таксама варта прыцягнуць Караваджа, Эль Грэка і Рэмбрандта. Усе яны дружна выяўлялі Хрыста з белай скурай.

Праўда, кіраўнік гэтай царквы архібіскуп Кентэрберыйскі — супраць татальнай адмовы ад традыцыйнага вобраза пастыра з Назарэту. «Вы заходзіце ў царкву і не бачыце белага Ісуса — затое вы бачыце чорнага Ісуса, або кітайскага Ісуса, або блізкаўсходняга Ісуса, што, вядома, з'яўляецца найбольш дакладным. Вы бачыце фіджыйскага Ісуса, вы бачыце, што Ісус выяўлены ва ўсіх сэнсах культуры, мовы і разумення (...) Гэта напамін пра агульнасць Бога, які стаў цалкам чалавекам», — кажа клірык.

**Гісторыкі не бачаць нічога жудаснага ў спрэчках пра расу і этнічную прыналежнасць Сына Божага. Такія дэбаты мелі месца ад самага пачатку распаўсюджвання хрысціянства. На самай справе, вобраз Ісуса як чалавека з белай скурай і доўгімі валасамі супярэчыць гістарычнай праўдзе**

Цікава, што многія гісторыкі не бачаць нічога жудаснага ў спрэчках пра расу і этнічную прыналежнасць Сына Божага. Такія дэбаты, па іх словах, мелі месца ад самага пачатку распаўсюджвання хрысціянства. Толькі ў XV стагоддзі, дзякуючы ў тым ліку згаданым вышэй мастакам, Ісус стаў нагадваць жыхара Паўночнай Еўропы. На самай справе, вобраз Ісуса як чалавека з абсалютна белай скурай і доўгімі валасамі супярэчыць гістарычнай праўдзе.

«Людзі блізкаўсходняга паходжання не маюць такой светлай скуры. Верагодна, у Ісуса з Назарэту быў больш цёмны колер скуры, чым у людзей на Захадзе. Хутчэй за ўсё, ён мала чым адрозніваўся ад прадстаўнікоў цяперашніх блізкаўсходніх народаў, якім уласцівая так званая "аліўкавая" скура», — піша адзін з амерыканскіх багасловаў. Па выніках даследавання старажытных шкілетаў іудзеяў можна дапусціць, што Ісус таксама, хутчэй за ўсё, меў цёмныя валасы і карыя вочы.

У прынцыпе, ідэя выяўляць Ісуса як жыхара Блізкага Усходу, напэўна, магла быць кампраміснай для ўсіх. Аднак сумнеўна, што з такім падыходам пагодзяцца актывісты радыкальных антырасісцкіх гуртkоў, якія ўпарта пашыраюць заклік Шаўна Кінга, аднаго са сваіх гуру: «Усе фрэскі і вітражы белага Ісуса, і яго еўрапейскай маці, а таксама іх белых сяброў павінны знікнуць».

З іншага боку, радыкалам будзе цяжка разбурыць архаічныя шаблоны наконт выгляду заснавальніка хрысціянства нават у чорнай камуне. Паводле вынікаў апытанняў сацыялагічнага агенцтва Rasmussen Reports, якія былі зробленыя напрыканцы чэрвеня, толькі трэціна афраамерыканцаў схільныя да ідэі «перафарбоўкі» Ісуса. Затое гэтая ідэя падабаецца 58 працэнтам актыву Дэмакратычнай партыі, кандыдат якой мае добрыя шанцы перамагчы на прэзідэнцкіх выбарах у лістападзе.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Юрый Бяздудны



Часовы выканаўца абавязкаў губернатара Ненецкай аўтаномнай акругі (НАА) трапіў пад увагу ўсяго расійскага палітычнага класа. Прычына ў тым, што толькі падкантрольны яму суб'ект федэрацыі прагаласаваў 1 ліпеня супраць папраўак у Канстытуцыю. Апошнія, як вядома, надаюць Пуціну магчымасць заставацца на пасадзе да 2036 года. Па выніках галасавання 55,25 працэнта выбаршчыкаў у НАА паставілі ў бюлетэнях пазнаку насупраць графы «Не». Між тым, па ўсёй краіне пакет папраўак падтрымалі амаль 78 працэнтаў выбаршчыкаў.

Праціўнікі Пуціна разглядаюць лічбы як доказ росту антыкрамлёўскіх настрояў на перыферыі. Этнічныя меншасці, маўляў, выказваюць занепакоенасць аднoй з канстытуцыйных папраўак, якая надае асаблівы статус рускай мове, што прывядзе да маргіналізацыі моваў карэнных народаў. Пракрамлёўскія СМІ, у сваю чаргу, заклікаюць не бачыць у выніках галасавання палітычнага складніку. Не выключаюць, што на вынік паўплывала адмоўнае стаўленне мясцовых жыхароў да планаў аб'яднання гэтай тэрыторыі з Архангельскай вобласцю або Рэспублікай Комі, якія з'яўляюцца датацыйнымі рэгіёнамі. Таксама важна адзначыць высокі ўзровень захворванняў у НАА на каронавірус, што заканамерна выклікае антыпатыі на адрас улады. У любым выпадку, думаецца, Бяздуднага за такія вынікі ў Крамлі не ўхваляць.

### Кшыштаф Босак



Ад пазіцыі кандыдата ў прэзідэнты ад польскай партыі «Канфедэрацыя» і, адпаведна, ад меркавання яго выбаршчыкаў будзе залежаць вынік другога туру выбараў, у якім 12 ліпеня сустракаюцца кансерватар Анджэй Дуда і ліберал Рафал Тшакоўскі. Рэйтынг у абодвух палітыкаў прыкладна роўны, і яны спрабуюць фліртаваць з электаратам іншых партый, у тым ліку выбаршчыкамі Босака (ён атрымаў у першым туры 6,8 працэнта). Сам Босак заявіў, што 12 ліпеня не падтрымае нікога.

Між тым палітычныя аглядальнікі чакаюць, што нават трымаючы дыстанцыю ад другога туру, Босак ужо задаў новы трэнд на правым флангу польскай палітыкі. У выпадку перамогі ці паразы кіруючая партыя «Права і справядлівасць» усё роўна вымушаная будзе цікавіцца ідэямі Босака. Усё таму, што таго падтрымліваюць аж 23% выбаршчыкаў узростам ад 18 да 29 гадоў. Гэтую моладзь і выбаршчыкаў з іншых узроставых груп прыцягвае радыкалізм Босака, які абяцае маштабныя структурныя рэформы: мінімалізацыю ролі дзяржавы ў эканоміцы, зніжэнне падаткаў, спрашчэнне фінансавага заканадаўства, рэформу Сената, прэзідэнцтва, ураду і гэтак далей. «Канфедэрацыя» таксама выступае за незалежнасць Польшчы ад любых знешніх цэнтраў, уключаючы Брусель і Вашынгтон.

Ці пачнецца «босакізацыя» польскай правай сцэны, можна спрачацца. Але ўкраінскія СМІ ўжо б'юць трывогу. Босак вінаваціць у шматлікіх бедах Польшчы працоўных мігрантаў, большую частку якіх складаюць украінцы.

### Эмамалі Рахмон



У Таджыкістане 6 ліпеня ўступілі ў сілу папраўкі ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях і ў Крымінальны кодэкс, якія напярэдадні падпісаў кіраўнік краіны. Новаўвядзенні вельмі незвычайныя: яны прадугледжваюць пакаранне за распаўсюд ілжывай інфармацыі ў СМІ аб пандэміі і штрафы за адсутнасць масак.

Напрыклад, за распаўсюд ілжывай інфармацыі аб пандэміі прадугледжаны штрафныя санкцыі ад 580 самоні для фізічных асоб (каля 58 долараў) да 11,6 тысячы (1160 долараў) для юрыдычных. Грамадзяне без ахоўных масак у грамадскіх месцах будуць штрафавацца ад 116 самоні (11,6 долараў) да 290 самоні (29 долараў). Папраўкі працягнулі, не зважаючы на крытыку грамадскасці.

Эксперты лічаць, што ўлада напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных на кастрычнік 2020 года, за іх кошт узмацняе ціск на прэсу. На журналістаў цяпер можна будзе ціснуць, паколькі незразумела, што маецца на ўвазе пад «недакладнай» інфармацыяй, і як гэта будзе вызначацца. Адзіная добрая навіна для апазіцыі — руцінны характар кампаніі. Гэта азначае, што Рахмон ідзе на чарговае пераабранне, адкладаючы на будучыню перадачу ўлады сыну Рустаму. Адтэрміноўка, у сваю чаргу, ускосна сведчыць, што Рахмон не ўпэўнены ў лаяльнасці ўсёй вертыкалі на момант транзіту ўлады.

# Насуперак правілам гульні

## 55 гадоў таму была ўпершыню апублікавана аповесць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць»



Васіль Быкаў у сярэдзіне 1960-х. Фота з архіва В. Быкава

Сяргей ШАПРАН

**55 гадоў таму ў часопісе «Маладосць» была надрукаваная адна з самых знакамітых і шматпакутных аповесцей Васіля Быкава «Мёртвым не баліць». Сам пісьменнік гаварыў: «...Мне хацелася нахабна напісаць пра гэта. Проста пісаць. І я не ўяўляў: надрукуюць або не. А калі надрукуюць, то ці пасадзяць мяне, ці выключаць аднекуль, ці яшчэ што, — ніякага ўяўлення я не меў. Я пра гэта не думаў. Не ведаў правілаў гульні».**

Задума «Мёртвым не баліць» з'явілася выпадкова. Як прыгадваў Быкаў, будучы праездам з Масквы ў Гродна, ён завітаў у рэдакцыю штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», дзе заспеў толькі галоўнага рэдактара Нічыпара Пашкевіча. Пачалася размова, у якой Пашкевіч, былы партызанскі камісар і нядаўні выпускнік Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, праявіў поўны антаганізм думак, якімі поўніўся тады Быкаў. Апроч хіба адной — пайсці і разам выпіць. Ужо ў рэстаране Быкаў распавёў гісторыю свайго ранення ўзімку 1944-га, і Пашкевіч, зморaны гаворкай і вячэрай, заўважыў мо ў якасці адчэпнага: «Ну во, амаль гатовая аповесць». Ужо едучы цягніком у Гродна, Быкаў падумаў: чаму б не? І, вярнуўшыся дамоў, засеў за новы твор. Ішоў 1964 год.

### «Был бит, но недобит»

«Мёртвым не баліць» сам пісьменнік называў адным з самых аўтабіяграфічных сваіх твораў, бо ў яго падмурку рэальная гісторыя ранення, калі лейтэнант Васіль Быкаў ледзь не загінуў ва ўкраінскім стэпе пад коламі нямецкага танка і доўгі час пасля лічыўся забітым — яго сям'я нават атрымала пахаронку. Больш за тое, ягонае імя пасля вайны значылася на абеліску, што быў усталяваны ва ўкраінскім сяле Вялікая Севярынка.

Сам жа ён пісаў у той час, у 1944-м, у лісце да родных: «Вы беспокоитесь, получив извещение о моих похоронах. Все это чепуха и неправда, как сами видите. Правда, был бит, но недобит и отправлен в госпиталь на ремонт, а не похоронен. Ранение было тяжелое, но благополучно зажило и сейчас все в порядке. Нога находится в хорошем состоянии».



Васіль БЫКАЎ

Мастак Уладзімір ДЗЯМЕНЦЕЎ

МЁРТВЫМ НЕ БАЛІЦЬ

Аповесць

1

13

«Мёртвым не баліць» у «Маладосці»

«Мёртвым не баліць» сам пісьменнік называў адным з самых аўтабіяграфічных сваіх твораў, бо ў яго падмурку рэальная гісторыя ранення, калі лейтэнант Васіль Быкаў ледзь не загінуў ва ўкраінскім стэпе пад коламі нямецкага танка

А значна пазней, у 1982-м, ужо больш падрабязна апавядаў у лісце да Лізаветы Сергіенка, дырэктаркі музея ў той самай вёсцы Вялікая Севярынка, у ваколіцах якой Быкаў ледзь не загінуў і дзе будзе створаны першы ў свеце музей ягонага імя: «Мы освобождали Северинку (399 стрелковый полк III СД) в начале января 1944 г., помню, день провели на ее окраине, на кладбище, был бой, немцы вели огонь со стороны Кировограда. К вечеру мы свернули в степь, на гору, за реку, и ночью в степи столкнулись с немецкими танками, которые разгромили наш батальон. Я был ранен в ногу, случайно подобран своими, которые привезли меня в какое-то село (не знаю его названия), оставили в хате санчасти возле церкви, но назавтра оттуда всех нас выбили немцы, и я спасся в последнюю минуту — выполз из хаты и был подобран на последнюю повозку. Все это описано в моей повести "Мертвым не больно" до того места, где мои герои попадают в плен к немцам. В действительности в плен я не попал — зарылся в скирду соломы».

Мусіць жа, з прычыны аўтабіяграфічнасці галоўны герой аповесці Леанід Васілевіч быў настолькі блізкі пісьменніку, што на палях чарнавой рэдакцыі сустракаюцца такія паметы: «Сахно маўчыць. Старшына вядзе далей. Я гляджу — Сахно бы не чуе», — менавіта так, ад першай асобы, хоць, зразумела, размова ідзе не пра аўтара — пра літаратурны персанаж. Пра галоўнага героя, які першапачаткова быў Васілём Зыкавым, але ў апошні момант быў пераназваны ў Леаніда Васілевіча — вытворную ад імя самога аўтара, які да таго ж быў, як і Быкаў, 1924 года нараджэння.

### «Няўмольны, як само наканаванне»

Некалі, яшчэ трыццаць гадоў таму, я запытаўся ў Васіля Уладзіміравіча, ці рабіў ён праўкі, калі яму ўказвалі на ягоныя «памылкі»? «Калі б я і не рэагаваў непасрэдна (хоць я не мог гэтага не рабіць, бо "памылкі" падкрэсліваліся чырвоным алоўкам і твор не ішоў у набор, пакуль падкрэсленае не было выпраўлена), то падчас працы гэты нябачны рэдактар заўсёды прысутнічаў! Па сутнасці, адбывалася цяжкая барацьба з унутраным цэнзарам», — адказаў пісьменнік.

А яшчэ тады, у 1965-м, ён паведамляў у лісце да крытыка Ванкарэма Нікіфаровіча пра працу над «Мёртвым не баліць»: «А я пацiху пішу. Праўда, скончу яшчэ не хутка — праз месяц, другі. Не ведаю, што атрымаецца. Рызыкоўны вобраз асабіста я ўжо перарабіў. Пасля "Пасткі" рашыў абхадзіць такія павароты, бо ўсё роўна іх ламаюць у рэдакцыях, а гэта горш, чым калі зробіш (паламаеш) сам. Праўда, тое, што хачу, я ўсё роўна скажу. Не праз той, дык праз другі вобраз. Рознай пошасці, на шчасце ці няшчасце, у нас хапае».

Што тычыцца «Пасткі», дык у гэтай аповесці незайздросны лёс: напісаная ў 1963-м, яна была адрэдагаваная ў «Маладосці», аднак апублікаваная не была. «Пастка» дайшла да беларускага чытача толькі ў 1965-м, прычым фінал яе быў перароблены: калі ў ранейшай рэдакцыі галоўны герой лейтэнант Клімчанка, які трапіў у нямецкі палон, канчаў жыццё самагубствам, дык у пазнейшай рэдакцыі не толькі заставаўся жыць, але і быў выратаваны камандзірам роты ад смершаўца. Менавіта за такую канцоўку твора і папракалі аўтара крытыкі, абвінавачваючы яго ў няпраўдзе.

Працуючы цяпер над «Мёртвым не баліць», дзе смершавец быў ужо цэнтральным персанажам, Быкаў, вядома, не мог забыцца пра гісторыю з «Пасткай». У лісце да Нікіфаровіча ён меў на ўвазе гэтую сюжэтную лінію ў «Мёртвым не баліць»: Сахно — Гарбацюк, асабіст — старшыня ваеннага трыбунала. Відаць, менавіта сумны вопыт друкавання «Пасткі» прымусіў яго ўнесці ў апошні момант істотныя праўкі ў чарнавую рэдакцыю «Мёртвым не баліць»: так, у чыставой версіі аповесці Сахно прадстаўлены проста як «штабны афіцэр», хоць спачатку быў упаўнаважаным СМЕРШа.

Увогуле, СМЕРШ Быкаў яшчэ неаднойчы выкрасліў. Гэтаксама як і імёны Сталіна і Берыі. Справа ў тым, што з прыходам да ўлады ў 1964-м Брэжнева дзяржава ўзяла курс на рэсталінізацыю і абяленне імя «правадыра народаў». Таму і паведамляў Быкаў яшчэ на самым пачатку працы над аповесцю паэту і сябру Нілу Гілевічу: «Пішу, але ўжо загадзя прадбачу пераробкі, памятаю ў рукапісу, што дзе не пойдзе, трэба ж яшчэ прадумаць, чым і як замяніць. Карацей кажучы, для друку прыйдзецца спецыяльна апрацоўваць — перакладаць, як апрацоўваюць вершы для песень».

Быкаў і назву вымушаны быў змяніць: адна з працоўных назваў аповесці была «Ноч пасля свята», але галоўны рэдактар «Маладосці» — славуты паэт-франтавік Пімен Панчанка заўважыў, што яна «трохі з падтэкстам». І Быкаў, згаджаючыся, што аповесць з'явілася не ў час («Трэба было раней ці пазней. Цяпер жа на ўсіх хвалях грымяць бравурныя творы пра перамогу, гераізм і авангардную ролю», — пісаў ён Панчанку, маючы на ўвазе святкаванне 25-годдзя Перамогі), вярнуўся да першапачатковай назвы — «Мёртвым не баліць».

Увогуле ў творы ў выніку было зроблена каля 200 купюр. Да прыкладу, было выкраслена не толькі любое згадванне культу і імя Сталіна (яно толькі аднойчы фігуруе, прычым складваецца ўражанне, быццам засталося па рэдактарскім недаглядзе) — па-за межамі публікацый аказаліся і развагі пра нядаўняе мінулае, «калі сволачы вынішчалі народ», і гэта было «дзяржаўнай палітыкай». Зніклі і афарыстычныя чатыры сказы: «Часы мяняюцца. Вы хацелі паесці сыта. А мы — жыць справядліва. Невялікая, але ўсё ж розніца», якія самім жа аўтарам, мусіць, па патрабаванні рэдактуры былі перапісаны на зусім ужо прасценькае: «Калі наясіся досыта, дык захочацца і жыць па справядлівасці». Ці, скажам, падчас размовы старшыні ваеннага трыбунала Гарбацюка з міліцыянерам першы кажа: «Я сведка! Я чалавек асаблівага даверу. Гэтага дастаткова», аднак міліцыянер не пагаджаецца: «Вы памыляецеся, грамадзянін. Гэтага недастаткова. Не тыя часы». І вось якраз апошні сказ — «Не тыя часы» — у публікацыях адсутнічае. Усяго адзін невялічкі сказ, але якую сэнсавую нагрузку ён нясе! Недарэмна ён аказаўся выкрасленым.

Ці ў эпізодзе, калі маладыя людзі палохаюць адзін аднаго турэмным пакараннем і «крайні ў чорным гарнітуры» гаворыць, што дадуць «пятнаццаць», а другі перапытвае: «Гледзячы чаго? Сутак ці год?» і чуе ў адказ: «Чорта з два — год! Мінулася». І зноў рэдактар трапляе ў цэль, калі выкрэслівае сказ даўжынёй у адно слова, але зноў жа з агромністым падтэкстам: «Мінулася»...

«Менавіта на Быкаве і на яго аповесці "Мёртвым не баліць" сышліся і перакрыжаваліся

дзве самыя магутныя грамадскія тэндэнцыі нашага часу, — пісаў аўтарытэтны крытык Міхась Тычына. — Сталіністы, што параседзелі ў сваёй ідэалагічнай цытадэлі ўсе вятры "хрушчоўскіх" змен, мірыліся, пакуль крытыка культу асобы датычылася "мёртвых" і зверажаных ідалаў, і ўстрывожыліся, калі Быкаў у сваёй новай аповесці пачаў прыцэльна і "прамой наводкай" біць па жывых наследніках смершаўца Сахно… Літаратурных чынушаў і іх лёкаяў асабліва занепакоіла, што аўтар "Мёртвым не баліць" вельмі ж шчыльна падышоў да разгадкі ўсіх нашых бед і паражэнняў, крыўд і страт, якіх датуль не ведала чалавецтва. Аднак Быкаў ужо зрабіў свой выбар і быў няўмольны, як само наканаванне».

## «Ён — глыбокі аналітык, амаль геніяльны»

Аповесць выйшла ў ліпеньскім і жнівеньскім нумарах «Маладосці». Пра тое ашаламляльнае ўздзеянне, якое зрабіла яна на сучаснікаў, сёння лепш апавядаюць нават не ўспаміны, а тагачасныя лісты.

Да прыкладу, апальная паэтка Ларыса Геніюш пісала літаратуразнаўцу Міколу Прашковічу: «Аповесьць Васіля сапраўды надзвычайная. Сахно — гэта прататып характэрнага і для сяньняшніх абставінаў начальніка. Мы акружаныя такімі. Яны неуязвимы, бо ўмеюць прыслугоўваць і гнаць бязьлітасна людзей на "міннае поле". Яны здолеюць прыспасобіцца ўсюды. Калі б іх выбіраў народ, ён іх адкінуў бы, а так ён можа іх толькі ненавідзець… Яны — гэта бязьлітаснасьць, запярэчаньне разьвіцьцю культуры і гуманізму, гэта спрыт, хітрасьць і сіла, якая здольная выкарыстаць і ўтапіць у брудзе і загубіць усё найшляхотнейшае, да чаго дапрацавалася людзкасьць. Пакуль не асудзяць іх самыя людзі, яны будуць дзейнічаць… <…> О, як жа адчуў іх Васіль! Боль і пратэст аж крычаць са старонак часопісу…»

Іншым жа разам Геніюш пісала: «Мне здаецца, што ў Быкава ёсьць кусок дастаеўшчыны, беручы пад увагу яго аналіз сучасьніка, яго псыхалёгію людзей і вечна жывучых сахно. Мала беларускасьці ў яго творах, але затое многа чалавечнасьці. Нам, пэўна, ужо час крыху адрываацца ад сялянскага, любага парогу бацькоўі выходзіць на шырокую арэну вялікіх, агульналюдзкіх тэмаў. Кожны можа толькі даць тое, на што ён здольны, і што зьяўляецца яго стыхіяй. Стыхія Быкава — гэта бічаваньне бесчалавечнасьці, хамства і нізасьці ў людзях. На вайне — асабліва. <…> Так, не баліць толькі мёртвым! Быкаў адчувае і нясе адказнасьць за лепшага чалавека, «праполвае» грамадзтва, і гэта вялікая справа. Ён — глыбокі аналітык, амаль геніяльны, як само жыцьцё».

## Дзвюх праўд не бывае

Першая крытыка «Мёртвым не баліць» была спрэс спрыяльнай. І толькі праз паўгода ў беларускім друку з'явілася цалкам адмоўная рэцэнзія — яна належала крытыку-вульгарызатару Якаву Герцовічу, які, упікаючы Быкава за матывы асуджанасці («дзесяткі людзей нават не пратэстуюць, калі штабны афіцэр Сахно з меркаванняў перастрахоўкі аднаго прымушае страляцца, другіх без патрэбы гоніць на верную смерць, трэцім атручвае жыццё недарэчнымі пагрозамі»), за «памылковы» погляд на вайну («Васілевіч мог сабе думаць, што сумленна ваявала толькі меншасць, але нідзе ў аповесці няма і намёку на тое, што герой памыляецца») і за «абстрактны гуманізм», у выніку рэзюмаваў: «Шкада, вядома, што ў таленавітага празаіка <…> зрэдку прарываюцца і не ўласцівыя яму ноткі. <…> Галоўнае — не падмяняць вялікую праўду аб вайне малюпасенькай праўдай прыватнага выпадку, казуса, армейскага анекдота. Дзвюх праўд не бывае».

Але гэта была толькі першая ластаўка — вялікая разносная крытыка была яшчэ наперадзе. Яна пачнецца пасля таго, як аповесць у перакладзе па-руску з'явіцца ў часопісе «Новый мир», рэдагаваў які славуты паэт Аляксандр Твардоўскі. У той час гэты часопіс лічыўся адным з ліберальнейшых выданняў у СССР. Таму і сам ён, і ягоны рэдактар былі пастаянным аб'ектам пільнай увагі ні многа, ні мала, а КДБ СССР. І калі браць па вялікім рахунку, то ўсе вялікія непрыемнасці Васіля Быкава пачаліся менавіта пасля з'яўлення ягонага імя ў часопісе Твардоўскага…

Між тым крытык Валянцін Аскоцкі прыгадваў, які настрой быў у Быкава, калі пытанне пра публікацыю «Мёртвым не баліць» у «Новом мире» было канчаткова вырашана: «Василь и Саша Адамович оказались в Москве вместе и пришли ко мне поздним вечером сразу после встречи с Твардовским. Один как стеклышко, другой слегка навеселе, но сияли оба: сигнальный номер с началом публикации уже в редакции. Саша был упоен повестью так, что пересказывал ее если не совсем, то почти по тексту. Василь слушал с настроем тоже приподнятым, не скрывая, что рад и первому своему выходу к читателям через опальный «Новый мир», и единодушному признанию повести его творческой удачей».

Але каб праўдзіва падаць тую першую чытацкую рэакцыю на аповесць, працытуем зноў жа некалькі тагачасных лістоў.

«Вася, дорогой, здравствуй! Только что дочитал твою повесть и не могу придти в себя. Понимаешь, без преувеличения, — я потрясен. Так ще не було, как говорят на Украине, — пісаў той жа Валянцін Аскоцкі. — Теперь уже не только тебя, но и всю "военную прозу" надо мерить новой меркой — меркой этой повести».

А Грыгорый Бакланаў — той самы Бакланаў, пад уздзеяннем кніг якога Быкаў, па ўласным прызнанні, некалькі гадоў таму зразумеў, як жа трэба казаць у літаратуры пра вайну, — пісаў цяпер: «Не могу сказать, как ты мне близок, как хочется обнять тебя, поблагодарить. Да, им уже не больно. Но боль за них, живущую в нас, быть может, сильней всех выразил ты. Так сильно, что временами, когда читал, сердцу было нехорошо. Физически нехорошо. Есть много вещей, которые впервые сказал ты. Такую



**Данута Бічэль, Аляксей Карпюк, Ларыса Геніюш, Васіль Быкаў.** Фота Юркі Голуба



**З Піменам Панчанкам.** Фота Яўгена Коктыша

обнаженную солдатскую войну не писал еще никто из нас».

Гэтаксама і яшчэ адзін яркі прадстаўнік так званай «лейтэнанцкай прозы», пад уплывам якога і вынайшаў, па сутнасці, свой стыль у літаратуры Быкаў, — Юрый Бондараў пісаў аўтару «Мёртвым не баліць»: «Вещь Вы написали талантливую, яркую, всю как бы сплетенную из обнаженных нервов — лучшую из всех военных вещей, которые я читал в последние годы. <…> …Пишу Вам это письмо с одним желанием — пожать руку».

Зрэшты, падтрымка сяброў, чытачоў і калег па пяры — гэта адзінае, што неўзабаве застанецца Быкаву, бо менавіта пасля публікацыі аповесці ў «Новом мире» і пачалася шматгадовая кампанія шальмавання аўтара «Мёртвым не баліць». Аўтара, якога крытыка назаве прыхільнікам «нелицеприятного реализма» ў літаратуры.

## «Отрыжка культовщины»

Першы залп па Быкаву далі свае ж — газета «Звязда» згаданай рэцэнзіяй Герцовіча і «Советская Белоруссия» вялікім артыкулам, у якім разгрому была падвергнута ўжо ўся творчасць гродзенскага пісьменніка. Артыкул быў надрукаваны без подпісу, што ў тыя часы сведчыла пра тое, што ў матэрыяле выкладалася пазіцыя ЦК КПБ.

«Нельзя принимать на веру без серьезных оговорок и многое из того, что пишет В. Быков о войне, — гаварылася ў артыкуле пад недвухсэнсавай назвай «Вопреки правде жизни». — Иногда доходит до святотатства, до надругательства над тем, перед чем следовало бы благоговейно снять шапку. <…> В некоторых произведениях В. Быкова читателю навязывается неправильное, искаженное представление об истоках массового героизма советских людей в годы войны. В таких повестях и рассказах солдаты целиком и полностью отданы во власть, мягко говоря, неумных, а то и нечестных командиров. <…> Если верить В. Быкову, то победу обеспечило безропотное меньшинство "фронтовых трудяг", а все остальные имели к ней лишь косвенное отношение. <…> Налет скепсиса пробивается на поверхность даже в лучших повестях В. Быкова — "Третья ракета", "Измена". Нелегко героям "Третьей ракеты" погибать с горькой мыслью о том, что чья-то голова останется в кустах, чья-то грудь будет в крестах, да и не чья-то, а того именно, кто умеет ловчить, спасать свою шкуру ценою жизни товарищей. Повесть "Измена" — еще одна вариация на тему: подлецам везде привольно, даже на войне». І напрыканцы знішчальны вердыкт: «Хочется спросить: как случилось, что в Союзе писателей БССР и его литературных изданиях столь долго не замечали, что В. Быков постепенно начинает отходить от жизненной правды, односторонне, а порой искаженно отображать историю Отечественной войны, что, естественно, не способствует воспитанию у народа любви и уважения к Советской Армии, оскорбляет лучшие патриотические чувства наших людей?»

І хоць абараніць аўтара «Мёртвым не баліць» возьмуцца маладыя паэты Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі (напісаўшы ліст у ЦК КПБ з крытыкай артыкула ў «Советской Белоруссии», яны збяруць пад ім больш за паўсотні подпісаў калег, у тым ліку першых тагачасных беларускіх пісьменнікаў: Янкі Брыля, Аркадзя Куляшова, Міхася Лынькова, Івана Мележа), аднак той калектыўны ліст не зможа ратаваць Быкава.

Зрэшты, нічога дзіўнага ў гэтым не было, бо толькі праз шмат гадоў стала вядома, што загад на кампанію яго шальмавання аддаваўся не ў Мінску, а ў Маскве, прычым адной з самых злавесных фігур у камуністычным арэапагу — сакратаром ЦК КПСС Міхаілам Суславым, які пасля зняцця Хрушчова стаў фактычна другім пасля Брэжнева чалавекам у партыі і дзяржаве. Гэта менавіта ён адказваў за пытанні ідэалагічнай палітыкі ў СССР, за кіраўніцтва дзейнасцю СМІ, цэнзуру, культуры і мастацтва. Гэта з яго імем звязаныя ганенні дэмакратычна настроенай інтэлігенцыі: разгром рэдакцыі «Нового мира», выгнанне з СССР Салжаніцына і высылка Сахарава. І гэта менавіта рэзалюцыя Суслава была накладзена на сакрэтнае данясенне старшыні КДБ СССР Сямічаснага: «Комитет государственной безопасности докладывает о процессах в среде белорусских писателей, вызванных опубликованием и критикой повести В. Быкова "Мертвым не больно". <…> Некоторые белорусские писатели открыто стали на защиту В. Быкова, считая, что газета "Советская Белоруссия" выступила необъективно. Заведующий отделом газеты "Литаратура и мастацтва", член КПСС писатель Г. Буравкин заявил: « "Советская Белоруссия" перечеркнула творчество В. Быкова и вызвала обратную реакцию среди писателей. Происходит издевательство. После выступления газеты складывается впечатление, что В. Быкова судят как на процессе». <…> Известный белорусский поэт А. Кулешов назвал статью "отрыжкой культовщины". Некоторыми писателями предпринимаются конкретные шаги с тем, чтобы публично, на страницах печати выступить в защиту В. Быкова. <…> Повесть В. Быкова привлекла внимание некоторых печатных органов капиталистических стран, которые стремятся использовать ее в пропагандистских целях».

З таго часу пісьменнік патрапіць пад пільны нагляд Камітэта дзяржбяспекі не толькі ў Мінску, але і ў Маскве. Яго імя не раз будзе фігураваць у сакрэтных данясеннях камітэта, а яго самога будуць перыядычна выклікаць на «прафілактычныя» гутаркі, адначасова спрабуючы завербаваць людзей з яго блізкага атачэння: гісторыка Барыса Клейна, літаратуразнаўцу Аляксея Пяткевіча, маладых паэтаў Юрку Голуба і Вольгу Іпатаву. Сам жа ён напіша ў лісце да Ніла Гілевіча: «Дайшлі нават да школ і дзяцей. У школах даводзяць, што Быкаў — гэта гродзенскі Сіняўскі, вораг. І хто? Ведама, кадравыя работнікі КГБ. Пайшлі на прадпрыемствы "с разъяснениями". З дня на дзень усё горш. Як воўка ў аблаву».

Распачнецца гэты перыяд у жыцці аўтара «Мёртвым не баліць», ад якога будуць чакаць пасыпання галавы попелам і публічнага пакаяння. Але ён скажа: «Пастаўце сябе на наша месца — і вы зразумееце, што выбар у нас невялікі. Пытанне стаіць так: або літаратура, або нелітаратура. Сярэдзіны — няма». Гэтак распачнецца гісторыя аповесці «Мёртвым не баліць», якая дваццаць гадоў затым будзе забароненая. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя. Як казаў адзін з літаратурных крытыкаў, гэта аповесць пра чалавека, які выстаяў.

# БагатаДата

**Галоўная падзея тыдня — безумоўна, гадавіна перамогі пад Грунвальдам. Гэтую дату мы ўспамінаем ужо 610 гадоў. Што яшчэ цікавага адбылося на тыдні ў мінуўшчыне — у нашым аглядзе.**

## 11 ліпеня

**Сусветныя дні народанасельніцтва і шакаладу.**

**1930.** У вёсцы Падбулькова Брэсцкага раёна нарадзіўся мастак Іван Рэй. Пісаў нацюрморты, пейзажы, партрэты. Шэраг твораў прысвечаны вядомым беларускім літаратарам: «На радзіме Янкі Купалы», «Шлях паэта» (партрэт Максіма Багдановіча), «Якуб Колас», «Дунін-Марцінкевіч з дочкамі Камілай і Цэзарынай».

**1960.** У Гродне нарадзіўся цяперашні генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк. Да гэтага працаваў суддзёй і старшынёй Беларускага ваеннага суда, намеснікам старшыні — старшынёй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда.

## 12 ліпеня

**Сусветны дзень бортправадніка грамадзянскай авіяцыі.** І **Дзень працаўнікоў падатковых органаў у Беларусі** (другая нядзеля ліпеня).



**1920.** У Мінску нарадзілася Ядвіга Раманоўская — музейшчыца, захавальніца літаратурнай і архіўнай спадчыны Янкі Купалы, яго пляменніца. Некалькі дзесяцігоддзяў працавала захавальніцай фондаў у Літаратурным музеі Янкі Купалы.

## 13 ліпеня

**1970.** У Мінску нарадзіўся спартовец, скакун з шастом Андрэй Цівончык. У 1993 годзе перабраўся ў Германію і праз год пабіў тамтэйшы нацыянальны рэкорд. Бронзавы прызёр Алімпіяды–1996. Трэніраваў ураджэнца Віцебска Дзмітрыя Маркава, які перамагаў на чэмпіянатах свету за Аўстралію.

## 14 ліпеня

**1890.** У Віцебску нарадзіўся Восіп Цадкін, французскі скульптар. Яго бацька — яўрэй, а маці — шатландка. Наведваў адну вучэльню з Маркам Шагалам. У 1905 годзе пераехаў у Брытанію, а затым у Францыю. Выстаўляў свае творы ў многіх сталіцах свету. Летась яго скульптуру «Носьбіт дароў» набыў на аўкцыёне Christie's «Белгазпрамбанк» — і яна была ўсталявана каля ягонага офіса ў скверы на вуліцы Прытыцкага ў Мінску. У нідэрландскім Ратэрдаме, як будзеце там, можна пабачыць працу Цадкіна «Разбураны горад». А пахаваны скульптар на парыжскіх могілках Манпарнас.



Андрэй Цівончык

**1920.** Было створана Цэнтральнае бюро прафсаюзаў БССР. Цяпер гэта Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі.

**1970.** У Мінску нарадзілася фігурыстка Наталля Мішкуцёнак. Выступала ў пары з Артурам Дзмітрыевым. Чэмпіёнка алімпійскіх гульняў 1992 года. Жыве ў ЗША.

## 15 ліпеня

**1410.** Аб'яднанае войска Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства перамагло крыжакоў Тэўтонскага ордэну ў бітве пад Грунвальдам (на тэрыторыі сучаснай Польшчы ля мяжы з Расіяй). Гэта адна з найбуйнейшых бітваў у сярэднявечнай Еўропе. З абодвух бакоў змагаліся 60 тысяч вояроў.

**1900.** У вёсцы Агароднікі (цяпер Пастаўскі раён на Віцебшчыне) нарадзіўся паэт Уладзімір Дубоўка. За верш «За ўсе краі, за ўсе народы свету» ў 1930 годзе быў арыштаваны ў Маскве па «справе Саюза вызвалення Беларусі». Вось чатыры радкі з яго: «На нашым карку торг спраўляе смела Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой, І наша змучанае катам цела Штогодна новай кроіцца мяжой». Выпраўлены ў ссылку, затым быў яшчэ раз некалькі разоў асуджаны. Зняволенне адбываў у Расіі і Грузіі. Рэабілітаваны толькі ў 1957 годзе. Памёр у 1976 годзе ў Маскве. Ну і, канечне, Уладзімір Дубоўка — аўтар хрэстаматыйнага школьнага верша «О Беларусь, мая шыпшына». Памятаеце: «…зялёны ліст, чырвоны цвет! У ветры дзікім не загінеш, чарнобылем не зарасцеш».

**1910.** У вёсцы Бушмічы Камянецкага раёна на Брэстчыне нарадзіўся тэатральны дзеяч Уладзімір Стэльмах. Працаваў



дырэктарам некалькіх тэатраў: БДТ-2 у Віцебску, Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, Купалаўскага тэатра, Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

## 16 ліпеня

**1950.** У расійскім Загорску нарадзілася піяністка і кампазітар Ірына Цвяткова. Жонка кампазітара Васіля Раінчыка. Яны разам працавалі ў ансамблі «Верасы» і Маладзёжным тэатры эстрады.

## 17 ліпеня

**Сусветны дзень міжнароднага крымінальнага правасуддзя.**

**1870.** У расійскім Царскім Сяле нарадзіўся Міхаіл Святаполк-Мірскі, князь, дыпламат, апошні ўладальнік Мірскага замка. Замак быў разбураны падчас Першай сусветнай вайны. І ў 1920-я, 1930-я гады — да самай смерці — Святаполк-Мірскі займаўся яго рэстаўрацыяй. Вынік ацаніў нават прэзідэнт Польшчы Ігнацій Масціцкі, які ў 1929 годзе наведаў Мір. Калі мястэчка стала часткай БССР, у замку зрабілі вытворчую арцель.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час

Агульнапалітычная штотыднёвая газета

novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1134

Падпісана да друку 09.07.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.